Б2 49174

# КРЫВАВАЙ ПУЦЯВІНАЙ

## ЗБОРНІК ТВОРАЎ
## АБ БЕЛАПОЛЬСКІХ ЗЬДЗЕКАХ НАД ПРАЦОЎНЫМІ БЕЛАРУСІ

Пад рэдакцыяй
А. СЯНЬКЕВІЧА і А. АЛЕКСАНДРОВІЧА

Б 49174
Бот. адрас 1994 г.

ВЫДАНЬНЕ ЦБ МАЛАНЯКА
МЕНСК—1927

# ПРАДМОВА

„Браты, мінецца ліха-гора
І панскі шал затхнецца скора—
Бо стукне молат па панох"...
*Якуб Колас.*

Політыка польскіх паноў, накіраваная на зьнішчэньне чатырохмільённага народу, зьдзекі, катаваньне, забарона друкаванага беларускага слова, забарона школы на роднай мове, руйнаваньне экономічных організацый працоўных, разгон стотысячнай рэволюцыйна-нацыянальнай організацыі,—усё гэта не магло ня вызваць пачуцьця абурэньня, пачуцьця гневу сярод рабочых і сялянскіх гушчаў Савецкай Беларусі.

Найбольш чулым да падзей на Захадзе зьявіўся наш пясьняр, які вышаў з працоўных гушчаў, для якога Чырвоны Кастрычнік адкрыў шырокае поле для поўнага росквіту. Поэта аформіў пачуцьці працоўных мас у радкох агнёвых вершаў, у якіх поруч з заклікам да змаганьня палае гнеў, агіда, абурэньне.

Апроч вершаў, прысьвечаных братом Заходняй Беларусі, чытач знойдзе ў гэтым зборніку аповесьці аб крывавай пуцявіне, якую пралажыла польская «дэмократычная» армія на Беларусі, цяпер Савецкай. Гэтыя «цені крывавай мінуўшчыны», тыя славутыя «танцы Гольца» вакол шыбельніцы—яны не забудуцца рабочымі і сялянамі ўсёй Беларусі. Няхай ведае аб танцах Гольца, аб зажыва спаленых, аб сотнях катаваных, аб разбураных вёсках, аб гвалтах над жанчынамі ўвесь «цівілізаваны» сьвет, які так многа крычыць аб сваёй гуманнасьці. Аб гэтым даведаецца пролетарыят Захаду, і тады ён хутчэй замкне горла брахуном II Інтэрнацыяналу, якія не перастаюць крычаць аб бальшавіцкім тэроры.

З польскім рабочым, з польскім працоўным сялянствам нас яднае пачуцьцё солідарнасьці, пачуцьцё агульных інтарэсаў пролетарыяту.

Польскія рабочыя і сяляне церпяць ня меншы ўціск. Лепшыя сыны польскае рабочае клясы, змагары за вызва-

леньне з-пад ярма капіталізму церпяць зьдзекі і катаваньні. Забойства комсамольца Энгеля, расстрэлы забастоўшчыкаў, беспрацоўных—гавораць аб тым, што польская буржуазія, польскія паны зьяўляюцца ворагамі ня толькі працоўных нацыянальных меншасьцяй, але таксама зьяўляюцца ворагамі польскіх рабочых і сялян. Польскія працоўныя масы змагаюцца сумесна з працоўнымі Заходняй Беларусі і Украіны супроць уціску буржуазіі і памешчыкаў.

Польскі абшарнік, польскі пан, што страціў і мае страціць палацы, маёнткі і сытае жыцьцё,—гэта ён помсьціцца цяпер над працоўнымі Заходняй Беларусі, гэта ён нёс крывавую помсту за адабраныя маёнткі Савецкай Беларусі.

«Фабрыка сьмерці»—так называе сучасны лад Польшчы поэта Александровіч. «Гэта праўда—лягендаю будзе»,—так заяўляе сваім сумным нарысам А. Вольны.

Гэты зборнічак матэрыялаў зьяўляецца толькі сотаю часткаю таго, што рабілася тут белапольскай арміяй у часы окупацыі. Лічбы, малюнкі, апавяданьні аб зьдзеках, гвалтах, надужыцьцях як тут, у нядаўныя часы, так і там у Заходняй Беларусі ў сучасны момант яшчэ чакаюць свайго зьбіральніка і могуць запоўніць цэлыя томы.

Нашы пісьменьнікі, бязумоўна, пойдуць і далей па гэтым шляху.

**А. Сянькевіч.**

Якуб Колас

# Братом Заходняй Беларусі

*(На разгром „Грамады“)*

Няхай паны ў сваёй дурноце
Мацней сьціскаюць абцугі,
Каб вас душыць у злосным гнёце,
Каб на калючым панскім дроце
Павесіць скарб наш дарагі;
Няхай ксяндзы, жрацы блюзьнеры,
Падпёршы тылакам аўтар,
Выводзяць панскія намеры
З «сьвятых законаў» свае меры,
Каб болей сталася ахвяр;
Няхай шалее гэта зграя,
Няхай чадзіць «сьвяты» дурман,
Каб выбіць з беднага ратая
Прагненьне к волі таго краю,
Дзе ня прышчэпіцца ўжо пан;
Няхай караюць там сурова,
Каб дух народу загасіць;
Хай «ужонд польскі» слова ў слова
Бярэ прыклады ў Мураўёва,
Каб рух спаганіць, ахлусіць;
Няхай ад «мора і да мора»
Жыве ў закручаных мазгох,—
Браты, мінецца ліха-гора,
І панскі шал затхнецца скора,
Бо стукне молат па панох!

Якуб Колас

# Паном

Эх, панове, «ніц не бэндзе»:
Сапсуе пан справу «вшэндзе»,
Бо занадта пан «горонцы»!
І ня ў панскіх інтарэсах
Зьдзек такі чыніць «на крэсах»,
Ня чуваны зьдзек пад сонцам!
«Дэфэнзывы» і нагайкі,
Як было і ў Мікалайкі:
Цар—настаўнік ваш, панове!
«Постэрункі» ды касьцёлы,
І ніводненькае школы
Беларусам у іх мове!
Уціск, гвалт і катаваньне,
Зьдзек з народу, мардаваньне,
Ідзе «польскасьць» там нахрапам.
Як даўней, так і цяпер, там
Паліцэйскі ходзіць фэртам—
Ёсьць разгон у вас сатрапам!..
Толькі-ж спосаб ваш ня новы:
Ён ужыты Мураўёвым,
Хоць ня гэтак, мо' шырока...
Ня збудуеш так дзяржавы—
Будзе панства без Варшавы,
Быў-жа прыклад недалёка.
А ўсе вашы выкрунтасы
Не пагналі-б зноў «до лясу»—
Ці той «ляс» забыла панства?
Няхай чыніць гвалт нялюдзкі
Вам «падкрулек», пан Пілсудзкі,
«Круль» маны і ашуканства.
Вы-ж ліжэце яму пяты,
Бо паны на гэта—хваты:

Вы—рабы або тыраны!
Вы забылі пра няволю,
Пра сваю і нашу долю,
Як сьцякалі кроўю раны...
Услаўляйце-ж вашых хватаў,
Як Мэйштовіч, такіх катаў,
Папіхайце вольнасьць ботам!
На ўсё плюйце—што законы!
Душыць вас прывід чырвоны—
У вастрог паслоў, чаго там!..
А цяпер стаўляйце «круля»:
Ён мазгі ўжо вам намуляў,—
Толькі-ж «круль» ня дасьць
збавеньня...
Зьлезьце лепей, паны, з даху:
Ня збудуе панства «гмаху»
Заржавелым тым начэньнем!
Вы ня здольны жыць у згодзе—
«Мондры поляк, ды па шкодзе».

13 лютага 1927 г.

**Міхась Зарэцкі**

# Цені крывавай мінуўшчыны

Праз мора крыві, праз агні і пажары, праз мукі і сьмерць сваіх гэрояў-сыноў, праз стогны пакрыўджаных матак і роспачны плач асірацелых дзяцей прышла Беларусь на шырокі вольны шлях свайго красаваньня.

Цені мінулага (чорныя, страшныя цені) лунаюць над ёй жудасна-яскравымі зданямі. Яны родзяць у сэрцы жывыя ўспаміны, яны ўліваюць у нутро сьвежую хвалю магутнага абурэньня, якому ня можа быць меры, якое ніколі ня счахне ў грудзёх працоўнага беларуса.

Над кожным куточкам нашай краіны, над кожнай вёскай, над кожным палеткам носяцца чорныя цені мінулага.

Гэтыя цені—у сотнях, тысячах магілак, што парассыпаны па ўсім шырокім абшары Беларусі, што маўкліва хаваюць у сваіх халодных абнімках косьці бязьвесных ахвяр.

Гэтыя цені—у спарахнелых выстанках руінаў, у вогнішчах спаленых вёсак, яшчэ не зарослых глухою травою.

Гэтыя цені—у блакітных вачох гаротных сірот. Яны і цяпер яшчэ абмываюцца сьлязьмі, і таму ў іх так ясна, так жыва сьвіціцца палахлівы дакор, таму ў іх так лёгка чытаць жудасны сказ аб мінулым.

Гэтыя цені—у глыбока-тужлівых і жорстка-спакойных скаргах сялян, ад якіх міжвольна набягаюць на вочы балючыя сьлёзы і сэрца сьціскаецца вострай нянавісьцю.

Гэтыя цені—у прыгожых праўдзівых апавяданьнях пра гэроізм адважных барацьбітоў, пра ўдалыя ўчынкі спрытных паўстанцаў. Гэтыя простыя апавяданьні з часам абаўюцца квяцістым узорам романтыкі, народ-поэтператворыць іх у дзівосна-прыгожыя легенды, якія панясуць у вякі памяць аб грозных днёх крывавай эпохі...

. . . . . . . . . . . .

Мне давялося неяк забрысьці ў адзін з раёнаў Бабруйшчыны. Я узьняў у сваім уяўленьні нядаўныя, яшчэ зусім

сьвежыя вобразы, і цені мінуўшчыны агарнулі мяне чорным жудасным павевам.

У 1918 годзе тут лютавалі ў крывавай раскошы ашалелыя банды пана Доўбар-Мусьніцкага—«гэроя», які на дзіва здолеў злучыць у сабе бязглузды запал польскага шовінізму з тупой лютасьцю расійскай белагвардзейшчыны, які заліў Беларусь крывёй мірнага жыхарства, асьвятліў яе крывавым бляскам пажараў, агаласіў сьмяротным стогнам і плачам. Гэты няслаўны гэрой, які нейкім дзіўным выпадкам усплыў быў на паверх у віры рэволюцыйнага змаганьня і потым так ганебна скончыў сваю белагвардзейскую кар'еру пад жалезным ботам кайзэраўскага войска,—гэты гэрой пакінуў на Беларусі сьляды такіх дзікіх нечалавечых зьвярынстваў, аб якіх цяжка падумаць, якіх ня можа прыняць розум сучаснага чалавека, прад якімі робяцца цьмянымі зьвярынствы цёмнай эпохі сярэднявякоўя.

У той час над мірным жыхарствам чорнай навалай вісела трывога. У той час кожную хвіліну кожны чакаў, што наедуць, абрабуюць, спаляць, замучаць, заб'юць. Бо што-ж было і рабіць харобрым ваякам, як не займацца рабункам і зьдзекамі, з кім-жа і ваяваць, як не з працоўным сялянствам, у якім разьюшаныя паны бачылі свайго ворага, у якім бачылі яны захаваную здань бальшавізму.

Атрады бліскучых уланаў, сярод якіх было бадай-што больш афіцэрства, чымся простых салдатаў, шалаліся па беларускіх вёсках, прыносілі з сабой спалох і трывогу і пакідалі пустыя хаты ды плач абрабаваных сямей. Забіралі ўсё, што трапляла на вочы: вывозілі збожжа, выганялі скаціну, стралялі або секлі шашкамі кур, гусей, бралі лепшую вопратку. Калі-ж сялянства пачынала супярэчыць, калі спрабавала абараніць, захаваць сваё дабро, тады палачы наладжвалі экзэкуцыю. Тады крывянілася цела сялян ад нязьлічоных шампалоў ці розаг, тады палалі двары непакорных гаспадароў, і аставалася ў вёсцы пасьля ад'езду ўпіўшыхся кроўю паноў шмат акрываўленых трупаў, аставаўся сьвежы попел згарэўшых двароў.

І яшчэ паны ўпарта і злосна шукалі бальшавікоў. Прыяжджалі на вёску, бралі старога селяніна, якога сын, не

сьцярпеўшы зьдзеку, уцёк, куды вочы глядзяць, або падаўся за Дняпро, да чырвоных, і пачыналі пытаць. Секлі шампаламі, падвешвалі, выколвалі вочы, адсякалі вушы, і, не дапытаўшыся, або забівалі, або пакідалі на век горкай калекай.

Сялянства, асабліва моладзь, уцякала з родных хат, з родных вёсак і тулялася па лясох, па непраходных балотах. Дарогі былі бязьлюдны, па іх не хадзілі, ня езьдзілі,—баяліся, каб ня сустрэцца з палякамі. Досыць было ня ў лад што сказаць, або проста не ўпадабацца грознаму пану, і ён, сьмяючыся, для забавы, застрэліць або засячэ сваёй шабляй.

Разам з прыходам легіёнаў папрыяжджалі былі і памешчыкі, вымеценыя з сваіх маёнткаў Кастрычнікам. Яны пачалі зьбіраць «сваё» дабро і аднаўляць «сваю» гаспадарку. Легіянэры зганялі сялян да іх на работу, і сяляне пад бізунамі ішлі, працавалі. На Беларусь вярнулася жорсткая паншчына, адпаўшая шэсьцьдзесят год назад, вярнуўся ўжо даўно забыты прыгон.

Часамі маладыя сялянскія хлопцы злучаліся, здабывалі аружжа і давалі арганізаваны адпор драпежнікам. Яны ўпісвалі ў старонкі гісторыі радкі нязьмернага гэроізму, яны часамі ўпарта біліся з няпрыяцелем удзесяцёра большым па ліку. Але пагібалі. Сіла была не на іх баку. І тады гарэлі вёскі, расстрэльваліся дзесяткамі сяляне, цэлымі вёскамі клаліся пад шампалы. Разьюшаныя драпежнікі спраўлялі крывавы баль, праводзілі ў жыцьцё словы Доўбар-Мусьніцкага, якія так любіў паўтараць гэты няслаўны гэрой:

— За аднаго забітага легіянэра—дзесяць вашых загіне!..

Гэта быў час, у які, па словах аднаго з перажыўшых яго,—страшна было, калі пасьля ночы пачынала днець. Не хацелася сьвету, не хацелася дня, бо дзень прыносіў новую трывогу і новыя страхі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Я слухаў апавяданьні сялян пра чорныя дні панаваньня польскіх белагвардзейцаў—яны гнялі мяне сваёй прастатой, абычайнасьцю. Бо гэта прастата, гэты эпічны спакой апавядальніка падвойваў трагізм, згушчаў чорную жудасьць. Здавалася, лягчэй-бы было, каб крычалі аб гэтым, так крычалі,

каб чуў увесь сьвет, каб ад крыку таго здрыганулася ўся «цывілізаваная» Эўропа, што выхваляецца сваёй езуіцкай гуманнасьцю, каб пачуў гэты крык замежны селянін і рабочы, каб праца ўся ён братэрскім спачуваньнем, каб закіпеў нянавісьцю да адзінага ворага працоўных.

Апавядалі проста, спакойна:

— Было гэта, здаецца, другога лютага... У нядзелю... Казалі, што нібы знайшлі яны сьпіс, хто з нашай вёскі запісаўся ў Чырвоную гвардыю... Хто там іх разьбярэ, можа хто даказаў проста... Але прыяжджаюць так перад паўднём— яшчэ абедня ў царкве ня скончылася... Ну, атачылі з ўсіх бакоў цэркву: як пачаў народ разыходзіцца, яны і давай забіраць хто маладзейшы. Пазабіралі ўсіх чыста—чалавек сто набралася. Павялі гэта іх у яўрэйскі дом, зачынілі там, запёрлі, а ля вакон варту паставілі з стрэльбамі. Кажуць:— Абальлём зараз газай ды запалім. Кажыце, у каго ёсьць аружжа!—Ну, а хто там ведае дужа... Калі і было ў каго, дык трымаў у сакрэце. Хлопцы маўчаць, дрыжаць ад страху... Думаюць—канец ужо прышоў. Але-ткі вывелі адтуль, павялі за вёску, пастроілі ў шэраг ды куляміты наставілі. Зноў патрабуюць аружжа, у куляміты стужкі закладваюць. Хлопцы зьбялелі, як сьнег, стаяць, дрыжаць, але нічога ня кажуць. Так папужалі-папужалі ды ізноў павялі на вёску. Вось тут ужо і пачалося. Пастроілі зноў у шэраг і пачалі сячы па чарзе. Здорава секлі... Бізуны ў іх з дроту павіты, а ў канцы ўплецена куля. Ну, ударыш раз, другі—хлапец і зальлецца крывёй... А каторага сякуць-сякуць, а тады возьме салдат шаблю, уткне канец у крывавае мяса ды і паваарочвае там, прыгаварывае:—А ну, скажы, у каго ёсьць аружжа. А дзе-ж ён скажа, калі і сам ня ведае. Так перабралі ўсіх чыста. Ды яшчэ, сьцервы, трымаць адзін аднаго прымушалі. Аднаго сякуць, а два другіх—што на чарзе—трымаюць. А потым падыходзіць трэці, адзін з гэтых кладзецца. Зьлілі крывёй усю вуліцу... А потым нарабавалі, колькі маглі, ды паехалі...

Гэта было ў вёсцы Паўлавічах, цяпер 1-га Бабруйскага раёну. Гэта было бадай-што ў кожнай вёсцы, якая зазнала панаваньне бандаў Доўбар-Мусніцкага. У кожнай вёсцы

асталося сваё крывавае, ганебнае; кожная вёска захавала яго ў сваёй памяці і будзе доўга трымаць, як напамін аб адвечнай крыўдзе, як напамін аб нявыплачаным даўгу польскаму панству.

А вось яшчэ колькі падобных малюнкаў.

У в. Жылічах легіянэр зайшоў да аднае жанчыны і пачаў мучыць яе, патрабуючы грошы. Ён усё дамагаўся, каб яна адамкнула яму скрыню, дзе яны былі схаваны. Муж гэтае жанчыны—матрос, які за тыдзень да гэтага прыехаў дамоў, пачуў з двара, што дзеецца ў хаце, адкруціў аглаблю і стаў ля дзьвярэй чакаць спрытнага ваяку. Той дабіўся-ткі свайго, забраў грошы і вышаў з хаты. Не пасьпеў ён і азірнуцца, як раззлаваны муж аглушыў яго аглабләй, а сам уцёк. Праз колькі часу сабраліся сяляне. Яны ўзялі забітага легіянэра, цішком зацягнулі яго ў кавалёў сад і там схавалі. Гэта бачыў нечы маленькі хлопчык, і, калі таварышы забітага легіянэра прыехалі ў вёску, малы паказаў, дзе схаваны быў труп. Легіянэры кінуліся да каваля і пачалі дапытвацца, хто забіў іх таварыша. Яны катавалі яго, як толькі ўмелі, але што-ж ён мог ім сказаць, калі нічога ня бачыў і нічога ня ведаў. Не дабіўшыся нічога ад каваля, яны забілі яго. Разам з ім забілі і яшчэ накалькі чалавек, якія выпадкова трапіліся тут каля блізу.

Каля в. Хамічы знойдзен быў труп польскага ўлана. Невядома, ці мела якое дачыненьне да забойства вёска, ці не, але да гэтага далучылася яшчэ тое, што мясцовыя кулакі з каталіцкае шляхты даказалі, нібы ў вёсцы ёсьць шмат чырвонагвардзейцаў. І вось два эскадроны польскай кавалерыі атачылі вёску, па вузлавых пунктах пастанавіўшы кулямёты. Загарадзіўшы такім парадкам усе выхады з вёскі, палякі пачалі экзэкуцыю. Некалькі гадзін яны секлі шампаламі сялян—галоўным чынам моладзь. Раскрывяніўшы цела, яны пасыпалі сольлю і, калі корчыліся ад нясьцерпнага болю няпрытомныя ахвяры, яны зларадасна гаварылі:

— Ага! Вось вам свабода! Вось вам саветы!..

Абамлелыя ад болю целы, пакрытыя шкумацьцём парванага мяса, здымалі з лаўкі і, як кавалкі гавядзіны, кідалі ў халодную хату.

А вось узор таго, як польскія паны, зрабіўшыся катамі, усё-ткі ня згубілі былі «цывілізацыі», як яны ўмелі злучаць свае зьвярынствы з «культурнымі» забавамі, як яны ўмелі весела, цікава марнаваць час.

Я хачу расказаць пра славутыя «танцы Гольца». Трудна было-б паверыць, што такія «культурныя» забавы магчымы ў дваццатым стагодзьдзі, каб ня было жывых сьведак гэтага жудаснага факту.

Было гэта ў с. Парэчах. Рыхтуючыся некага вешаць, афіцэр польскага корпусу Гольц паставіў патрэбны лік шыбеніц. Але перш, чымся пачаць сваё зьвярынае прадстаўленьне, ён рашыў пацешыць сябе мастацкай прэлюдыяй. Ён загадаў сабраць з усяго сяла дзяўчат і прымусіў іх пад музыку скакаць вакол шыбеніц.

Праўда, высока-культурнаму садзісту Гольцу не ўдалося кончыць свае забавы, бо сяляне парой паведамілі ў Бабруйск, і вышэйшаму начальству хоця-ня-хоця прышлося спыніць спрытнага афіцэра.

Але-ж досыць пачатку, досыць нават замеру!.. І гэта ў дваццатым стагодзьдзі! І гэта на вачох «цывілізаванай» Эўропы, якая стаяла за сьпіной такіх катаў, гвалтуючы аб дзікасьці, аб вандалізьме бальшавікоў!

«Танцы Гольца»—гэта сымбаль разьюшанай белагвардзейшчыны. «Танцы Гольца» ня могуць быць забыты. Яны забудуцца тады, калі на падрыхтаваных шыбеніцах павіснуць Гольцы—бяз музыкі, бяз танцаў—у жорсткім, жалезным маўчаньні.

Але ўсё гэта яшчэ нішто ў параўнаньні з трагедыяй, якая разыгралася была ў в. Бортніках.

Бортнікі—гэта эпопея. Бортнікі заслужылі таго, каб быць запісанымі на чырвонай дошцы рэволюцыі. Тут быў гэроізм, тут была барацьба з непамерна вялікшым ворагам, адважная барацьба на жыцьцё і сьмерць. І была тут потым трагедыя, слухаючы пра якую няможна ўстрымацца, каб не задрыжэць ад жаху і гневу, бо беспрасьветнай жудасьцю вее ад гэтай трагедыі.

Вялікія і Малыя Бортнікі—дзьве вёскі, на вярсту адлеглыя адна ад аднэй, былі раскінуты на шашы, што ідзе з Баб-

руйску на Рагачоў. Поплеч з імі, амаль што на роўнай адлегласьці ад аднэй і другой, стаяў маёнтак памешчыцы Кутаёвай. У Вялікіх Бортніках жыў польскі комэндант, якія ў той час былі пры кожнай воласьці, а ў маёнтку жыў другі комэндант, іншага парадку, які спэцыяльна займаўся рэквізыцыямі, зганяў коняй, кароў, сьвіней і г. д.

Пад уплывам цяжкіх бесканцовых пабораў, пад уплывам пастаянных зьдзекаў, у Бортніках няўпынна расло абурэньне, якое к вясьне 1918 году гатова было прыняць арганізаваныя формы. Моладзь усё больш і часьцей дзейкала аб організацыі партызанскага атраду, ужо спрабавала нават цішком зьбірацца, каб стала абгаварыць гэтае пытаньне. На чале моладзі сталі некалькі матросаў, якія ў гэты час былі ў вёсцы. Палякоӣ, бязумоўна, было вядома аб гэтых замерах, і яны шукалі толькі зручнага моманту, каб расправіцца з непакойнымі вёскамі.

Пачалося з таго, што памешчыца «Кутаіха» зьвярнулася да комэнданта з просьбай памагчы ёй вычысьціць лес. Комэндант аддаў загад сялянам ісьці на гэту работу. Сяляне прасілі, каб ім аддалі тое гальлё, якое яны выберуць пры ачыстцы, але ім у гэтым адмовілі. Тады яны зусім адмовіліся ісьці на ачыстку. Комэндант налажыў штраф—па чатыры рублі з кожнага коміну. Штраф заплаціла толькі трое сялян. Тады ён штраф павялічыў да дзесяці рублёў з коміну. І—не заплаціў ніхто. Тады комэндант зьвярнуўся ў штаб, у Ціхінічы, каб прыслалі салдат.

30 мая а 2 гадзіне з паўдня ў Вялікія Бортнікі прышоў атрад у 12 чалавек легіянэраў і пачаў шукаць матросаў і аружжа. Характэрна, што па заяве людзей, якія працавалі ў той час у воласьці, комэндант адначасна з тым, як запрашваў са штабу гэтых 12 чалавек на 2 гадзіну, запрасіў на 5 гадзіну яшчэ 150 чалавек. З гэтага відаць, што першы атрад быў прысланы з пэўнай провокацыйнай мэтай—выклікаць сялян на паўстаньне, каб другі, значна вялікшы, атрад з спакойным сумленьнем мог потым расправіцца з паўстаўшаю вёскай.

Перш-на-перш легіянэры кінуліся да хаты, у якой жыў селянін Васіль Кот. Ён быў даўно ўжо прымечан імі, як неспакойны, небясьпечны для іх чалавек. Васіля, аднак, ня было

ў хаце. Яны знайшлі там яго брата Антона і накінуліся на яго:

— Ты Васіль Кот?..

— Не, ня я. Гэта мой брат...

Пайшлі тады ў хату, пачалі пароць усё-чыста, узламваць падлогу, столь—усё шукалі аружжа. А ў гэты час на вуліцы зьбіраўся народ, абураны, гнеўны, раздражнёны самаўпраўствам палякоў. Супроць хаты, дзе «працавалі» палякі, хутка вырас вялікі натоўп, з якога ўсё часьцей і мацней раздаваліся крыкі абурэньня.

У самы разгар трасяніны ў хату раптам зьявіўся Васіль. Але палякі яго не пазналі, а адзін хлапец з сваіх цішком перадаў яму запіску, у якой раіў уцякаць, пакуль ня позна. Скарыстаўшы зручны выпадак, Васіль прашмыгнуў міма варты і зьнік у натоўпе. Там ён пачаў яшчэ больш падбухторваць ужо і так узрушаных сялян. Калі з хаты вышаў комэндант, з натоўпу вылецеў сьмелы голас:

— Чаго вам трэба? Чаго шукаеце?

— Разыйдзісь!..

— А гавары, чаго шукаеш?..

— Разыйдзісь, а то страляць буду!..

А народ настойна патрабаваў адказу. І вось раздалася каманда:

— Салдаты! Ка мне!.. Тры крокі назад!.. Страляй!..

Салдаты стралялі ў паветра. Комэндант вырваў у аднаго з іх стрэльбу і сам зрабіў некалькі стрэлаў у натоўп. Паднялася паніка, сумятня. На зямлі хрыпела ў крыві два забітыя селяніны. Да аднаго з іх кінуўся хлапец:

— Татачка! Родненькі!..

— Э, псякрэў!..

І комэндант нацэліўся ў хлапчука. Але ня ўлучыў—куля ўпілася ў грудзі акрываўленага бацькі.

І вось тады ўжо ня стрымалі маладыя сяляне. З пагрознымі крыкамі кінуліся па хатах за аружжам. Палякі, пачуўшы небясьпеку, лапатнулі ўсьцяж па вуліцы. А хлопцы ўжо гналіся за імі, стралялі. Тады харобрыя ваякі, каб схавацца ад куль, сіганулі цераз гароды ў поле і паўцякалі. Расказвалі, што адзін у сьпяху застраў, пералазячы, на прасьле, і, пакуль

ён адчэпліваўся, нейкая баба, якая тут аказалася, добра набіла яго каромыслам.

А комэндант неяк зьнік раптам з вачэй. Яго доўга шукалі, але нідзе не знайшлі. Потым нехта казаў, нібы дабег ён быў да сашы і ўскочыў у бежанскую каламажку, якая якраз у гэты міг праяжджала.

Узьнялася тады на вёсцы страшэнная трывога. Званлі, што не даруюць палякі, што вернуцца з вялікай сілай і пакараюць за няслухмянства.

— Пераб'юць усіх... Спаляць!..

І нібы па нечаму маўкліваму загаду пачалі выбірацца з вёскі ўстрывожаныя жыхары. Запрагалі коняй, накладалі на вазы найбольш каштоўнае дабро, выяжджалі сем'ямі хто куды. Толькі некаторыя старыя дзядулькі не хацелі ўцякаць— не хапіла ў іх сілы пакінуць родныя хаты, у якіх выраслі, узгадаваліся, у якіх прыжджалі глыбокай старасьці і спадзяваліся памерці.

Вёска пусьцела. А ў гэты час моладзь рыхтавалася даваць адпор. Паведамілі ў Малыя Бортнікі, там таксама ўзьняліся хлопцы, пабралі аружжа, пачалі рыхтавацца. Там стаў на чале паўстанцаў матрос Бурак—народны гэрой, які дастаў сабе ў гэтым паўстаньні трагічную, але слаўную сьмерць. Як пачуў ён пра здарэньні ў В. Бортніках, схапіў у абедзьве рукі наганы і крыкнуў:

— Памру лепш, а ня здамся...

І ўся моладзь за ім:

— Усё роўна паб'юць, усё роўна памерці... За аружжа!

А 5 гадзіне ўвечары паказаліся легіянэры. Іх было чалавек 100-150. Наступалі яны чамусьці галоўнай масай сваёй на Мал. Бортнікі. Там іх сустрэлі дружным залпам. А Вял. Бортнікі ўдарылі на іх з флангу. Завязалася перастрэлка, у выніку якой удвая, а мо' ўтрая большы атрад легіянэраў (паўстанцаў было чалавек 50—60) прымушаны быў адступіць, забраўшы з сабой некалькі забітых і раненых.

Асьмялеўшыя паўстанцы рашылі перайсьці да наступальнае тактыкі. Яны згаварыліся і ўдарылі з двух бакоў па маёнтку, у якім сядзеў «сьвіны» комэндант (што загадваў рэквізыцыямі). Спалоханы комэндант уцёк аж за

20 вёрст у Азяраны, а паўстанцы забралі маёнтак і запалілі яго.

Пасьля гэтага, па словах аднаго з удзельнікаў гэтае справы, паўстанцы наладзілі ўсё «паваеннаму»: паставілі варту, увялі пропускі, паведамілі суседнія вёскі і сталі чакаць ад іх дапамогі. Пасьля было выясьнілася, што з аднае вёскі ішлі ўжо на дапамогу, але спазьніліся.

А ўвечары падышла новая сіла легіянэраў. Ішлі яны цяпер адначасна з двух бакоў: адны з ст. Цялушы, а другія з Азяран. Такім чынам, Бортнікі апынуліся сярод двух агнёў.

Зноў пачаўся бой. Зноў заляскалі стрэльбы, з боку палякоў затарахцелі яшчэ і кулямёты. Малыя Бортнікі ня вытрымалі—іх задушылі непамерна большыя сілы ворага. А Вялікія Бортнікі пад надзейнай сховай цемры ўсё яшчэ вялі барацьбу. Цэлую ноч адстрэльваліся адважныя партызаны. Каб ашукаць ворага, яны ўсю ноч перабягалі па вёсцы з аднаго месца ў другое і такім парадкам у палякоў рабілася ўражаньне, што тут уся вёска поўная паўстанцаў.

К раньню паўстанцы, якіх асталося ўсяго чалавек 20, змарыліся. Некаторыя нават паснулі, балазе не чапалі палякі, рашылі, як відаць, да раньня не пачынаць наступленьня. Таму і не заўважылі былі хлопцы, як залачком падышла да самае вёскі польская разьведка. Але парой схапянуліся, ухапіліся за аружжа і абстралялі палякоў. Тыя замятушыліся; відаць, не чакалі яны, што ў вёсцы астаўся яшчэ хто з паўстанцаў. І вось тады выскачыў з-за вугла стары паўстанец, крыкнуў, як сілы хапала:

— Хлопцы! На гура!..

Зьбянтэжаныя палякі, якіх было ня менш за 40 чалавек, далі драла.

Але гэта была ўжо апошняя патуга паўстанцаў. Палякі павялі наступленьне ўсімі сваімі сіламі. Чатыры ланцугі—адзін за адным—пасуваліся на вёску. Работала каля 8 кулямётаў.

Тады разьбегліся хлопцы. Палякі занялі вёску.

І пачалася расправа...

. . . . . . . . . . . . . .



Институт литературы ЦНИ ССР им. А. Горького
С.С.С.Р. ИНСТИТУТ Н. Марра и ... Ц. И. К.

Уварваўшыся ў вёску, палякі перш-на-перш пачалі рабаваць. Тут ім была поўная раскоша. Сяляне пакінулі бадай што ўсю сваю маемасьць—забралі з сабой толькі зусім неабходнае. А ў Мал. Бортніках шмат уцяклі проста так, як стаялі—асталося ўсё-чыста на месцы.

У момант на вуліцах зьявіліся вялізныя гарбы. У іх накладалі ўсё, што мела якую каштоўнасьць. Забіралі розныя хатнія рэчы—адзежу, падушкі, забіралі скаціну, якая асталася ў вёсцы. Сьвіней тут-жа калолі або засякалі, накладвалі цэлыя гарбы сьвіных туш і ўсё гэта вывозілі ў горад. Потым пачалі адшукваць збожжа—яно было ў сялян пахована ў патайных ямках. Тут прышлі на дапамогу бежанцы, што жылі на вёсцы. За час жыцьця ў сялян яны выведалі ўсе гаспадарскія сакрэты і цяпер паказвалі салдатам, дзе пахована сялянскае збожжа. За гэта ім дазвалялі прымаць удзел у рабунку. І адзін за адным пацягнуліся ў горад поўныя, цяжкія вазы сялянскага дабра.

А як галоўнае вывозілі, пачыналі падпальваць. Падпальвалі ўпарта, настойна, каб згарэла ўсё да апошняе трэсачкі, каб і знаку не асталося ад вёсак. Адзін стары селянін з Вял. Бортнікаў, успамінаючы аб гэтым, горка жаліўся са сьлязьмі на вачох:

— Ну, няхай-бы раз падпалілі—згарыць, дык згарыць, а не, дык не,—якое выпадзе шчасьце... А то-ж хадзілі, кожную хату падпальвалі, кожны будынак... Не хацела гарэць наша вёска, зусім не хацела... Вецер быў з боку, дык не перадаваўся агонь... Усё-роўна спалілі... Ні аднае хаткі не пакінулі...

Агонь пажару, як відаць, распаліў быў зьвярыныя інстынкты пераможцаў. Пачалася страшэнная крывавая оргія. Кепска прышлося тым, хто астаўся на вёсцы, хто не захацеў пакінуць роднага гнязда. Іх лавілі, як нейкую жывёлу, стралялі, паролі шаблямі, кідалі жывых у агонь, у калодзежы. Не шанавалі ні старых, ні жанчын. Ня пускалі выбягаць з падпаленых двароў, заганялі назад бізунамі...

А ў гэты час у лесе, у разлогах туляліся бяздольныя вяскоўцы. 320 сямей асталося бяз прытулку, бяз хлеба. 320 сямей павінны былі або жыць пад адкрытым небам—з малымі

дзяцьмі, з хворымі—або ўцякаць некуды далёка, дзе-б не дастаў жорсткі бізун ахмеленага пахам крыві, азьвярэлага панства. Па ўсіх бліжэйшых вёсках аддадзен быў строгі загад, што хто прыме к сабе бортнікаўца, той будзе разглядацца, як злачынец, і будзе жорстка пакараны.

Па ваколіцах разьяжджалі атрады ўзброеных легіянэраў, нікалі па лясох, па балотах—палявалі за бортнікаўцамі. Бліжэйшы да Бортнікаў лес нават прайшлі былі ланцугом—лавілі ўсё маладых. І калі траплялася злавіць—тут-жа на месцы або застрэльвалі, або білі да паўсьмерці.

Але мала каго ўдалося злавіць з маладых паўстанцаў. Не чакалі ўжо яны для сябе нічога добрага, падаліся, як сіл хапала, туды далёка, за Дняпро, да чырвоных. Пагібла толькі некалькі чалавек і сярод іх матрос Бурак, адзін з правадыроў паўстанцаў. Паранены ў бойцы, ён на кані ўцёк быў разам з братам сваім у в. Лёўкавічы, але там яго выказалі. Нейкім дзівам ён справіўся яшчэ ўцячы і адтуль. Улавілі яго ў в. Пархімкавічах і там запаролі шашкамі.

Каб лягчэй расправіцца з бортнікаўцамі, польскі комэндант, які абсталяваўся цяпер у в. Міхалёве, прыдумаў ганебнае ашуканства. Ён абвясьціў, што хто хоча атрымаць пропуск на вольны рух па ўсіх дарогах, а таксама на тое, каб зноў пасяліцца на папялішчы згарэўшых вёсак, павінен зьвярнуцца да яго ў в. Міхалёва. Даверлівыя сяляне пасунуліся да яго цэлымі гурмамі. У першы дзень ён сапраўды выдаў з 15 прапускоў, мабыць для таго, каб заслужыць давер'е. А на другі дзень ужо выкрыўся яго сапраўдны замер. Ён затрымаў каля 50 сялян і наладзіў над імі страшэнную экзэкуцыю. Некаторым дасталася па 140 шампалоў, шмат хто не пражыў доўга пасьля гэтага...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каб уявіць усю жудасную карціну крывавай расправы над Бортнікамі, трэба паслухаць нямудрыя, шчырыя апавяданьні саміх бортнікаўцаў.

Беларус умее расказваць. Беларус у сваім прымітыўным апавяданьні ня дасьць прыгожага квяцістага ўзьлёту сьмелай фантазіі, ня дасьць загладжанай, зачосанай байкі—з прыказкамі, з прыгаворкамі; але затое беларус дасьць жывую,

шурпатую, нязграбную праўду, гэтую праўду ён выкладзе грубымі неабцёсанымі камлыгамі, уціськне, уб'е ў сьвядомасьць слухача, прымусіць прыняць яе, паверыць ёй.

Я быў у Бортніках. Я зайшоў быў у хату бортнікаўскага селяніна—Андрэя Хурсана і сядзеў цэлы вечар, слухаючы поўныя чорнай жудасьці апавяданьні.

У маленькай хаце мякка зьвіваўся цёплы спакой, ціха пеў за сьцяной нясьмелы, уціхаміраны вецер. Здавалася, што ня толькі я слухаю гэтыя апавяданьні, а і слухае іх нехта там, за сьцяной. Нехта падкраўся, абступіў хату і ўважна слухае, прыслухоўваецца.

На прыпечку сядзіць старая бабулька—Андрэева матка. Яна часта падпірае далоньню галаву, і тады ў ёй, здаецца, адна журба, адна гарота. А на палу гоўтае мерна калыску маладзіца Андрэева—Ганна, пазірае з наіўным цікаўствам. Вочы ў яе зусім маладыя і ясныя. Калі яна пачынае расказваць, здаецца, што яна і цяпер такая самая пятнаццацёхгадовая дзяўчынка, якой была ў тыя грозныя дні.

Старая гаворыць мерным, жалобным голасам.

— А мой даражэнькі... Чаго толькі не пeражылі, чаго ня ўведалі... Асталіся без усяго... Ні хаты, ні адзежы, ні хлеба... Тры гады скаромінны ў вочы ня бачылі... А тады-ж што толькі было, як паўцякалі нашы былі ды як палякі прышлі... Мы з старым не ўцякалі, думалі—каму мы патрэбны? Аж і нам дасталося... Мяне, старую, адзін прыкладам у грудзі:—Дзе,—кажа, сыны, гавары?—Ну, а дзе-ж я выкажу дзетак сваіх... Былі і яны... во і гэты страляў, уцёк тады за Дняпро... А потым запалілі гумно... Я і давай галасіць, а яны сьмяюцца, рагочуць. Пачала гэта я поўзаць на каленках ды прасіць, маліць, каб хату не палілі... Угаварыла, здаецца, заспакоілі, што ня будуць паліць... А назаўтрага ўсё-роўна спалілі...

— Ох-хо-хо... сыночак ты мой... Чаго толькі тады ня было... Заганялі ў агонь шашкамі, бізунамі, у калодзежы жывых кідалі... Мяне, старую, тройчы бізуном ударылі.— Лезь, кажа, старая ў агонь!—Я павалілася на зямлю ды паўзком, паўзком ды ў сад... А яны едуць, з вінтовак—бэх! бэх!.. Палашцы Дзеркачовай дык бізуноў з 30 далі. Яна стаіць, плача, а яны гоняць яе ў агонь... Два разы, бедная, перабя-

гала праз агонь. Абсмылела ўся чысьценька... Бэрку, што краскай ды сінькай гандляваў, жывога ў агонь укінулі... Зьмітру Зуба... Во каго шкода. Такі быў прыгожы дзяцюк—карцінка чыстая... А цяпер—не пазнаць... Уцякаў ён тады ад іх ды і схаваўся ў дровы. Яны яго перш штыхамі паролі, але ён не абазваўся. Тады яны падпалілі хлеў і дровы гэтыя. А самі сталі і чакаюць, ці скора ён выскачыць... Дык-жа сядзеў у дрывах. Гарэў, а ня вылазіў, баяўся, каб не засеклі... Як ужо жарка стала палякам, і адышліся яны, тады выскачыў, кінуўся на балота. Страшны такі, абгарэлы ўвесь, твар распух...—Куды бяжыш?—пытаю я ў яго.—Куды цябе гоняць?..—А ён, відаць, ужо быў няпрытомны, ня помніў нічога. Кажа:—к фэльчару, цётачка, гоняць мяне, лячыць будуць... А сам кінуўся ў балота, пачаў там качацца. Дык і тады не пакінулі ў спакоі—злавілі. Ён сказаў, што ня тутэйшы, што з Слабады сам, а сюды да сястры прыходзіў. Павялі тады яго к фэльчару, у таго запыталіся, адкуль ён. Трапіла неяк і таму сказаць, што з Слабады. Дык адпусьцілі... Цяпер які ўжо ён чалавек!..

— А Мяльляна Шапялевіча злавілі ды кажуць:—палі гэта гумно!.. А гумно гэта якраз яго было. Ну, дзе-ж чалавек будзе сам дабро сваё зьніштажаць. Не захацеў ён паліць. Дык адзін кажа:—адступіся!—І стрэліў у яго. Папаў у руку, яна і павісла—ведама, пакрышыў чыста ўсю. Я гэта ад страху—бэх на зямлю, і ў вачу ў мяне цёмна зрабілася. І чую я, кліча мяне Мяльлян.—Маланка—кажа,—сястрыца, дай мне вадзіцы!.. Аж тут ляціць зноў на белым кані ды зноў—бэх!—у другую руку папаў яму. Так ён і пакаціўся... З гэтага і памёр, небарака, у Бабруйску...

І вяжа, вяжа старая бесканцовы ланцуг сваіх жудасна-прастых, праўдзівых апавяданьняў. І ўстаюць адзін за адным ў маім уяўленьні карціны дзікай расправы, устаюць вобразы бязьвінных ахвяр.

... Вось пятнаццацёхгадовы хлапчук Сёмка, сын Мяльляна Шапялевіча. Яго лёс быў ня лепшы, як бацькі. Яго застрэлілі ў лесе. Ранены на сьмерць (а можа і не на сьмерць?) ён прыбег яшчэ ў в. Пустошкі і кінуўся сам у калодзеж. Бедны хлопчык! Ён рашыў, што лепш утапіцца ў калодзежы,

чымся папасьці ў рукі катаў. Бо і тут—раненага, паміраючага—яго акружылі былі дзікія каршуны!..

... Вось ідылічная парачка: стары Аксён, 50 гадоў, і яго старая жонка. У іх няма дзяцей, няма гаспадаркі, няма жывёлы. Яны вынесьлі ад пажару сваю скрыню і селі на ёй, чакаюць, што будзе далей.

Пад'яжджаюць легіянэры.

— Устаць! Чаго вы тут сядзіцё, калі ўсе пахаваліся?..

— Паночкі, каня ў нас няма, на чым-жа мы выедзем?..

Легіянэр страляе, і стары падае мёртвы. І плача, галосіць над ім асірацелая бабка...

І колькі было такіх бяспрычынных чыста-зьвярыных забойстваў? А колькі было катаваньняў, біцьця? Хто палічыць, хто падвядзе крывавую статыстыку дзікіх зьвярынстваў!

А вось яшчэ поўнае вострага трагізму апавяданьне маладзіцы Ганны аб тым, як хадзіла яна ратаваць свайго бацьку:

— Як абвясьціў быў комэндант, каб за прапускамі ішлі, дык і татка пайшоў. А там і забралі яго, пасадзілі... Наказваюць потым мне, што будуць яго расстрэльваць. Я скарэй туды. Бягу, а сама ўжо ня помню нічога, нічога ня бачу. Адно ў галаве: каб пасьпець, каб не спазьніцца... Прыбегла ў Міхалёва і якраз падасьпела—сталі іх сеч. Аж страшна глядзець было, як секлі. Разьдзенуць, паложаць на дзьве табарэткі, адзін трымае за галаву, другі за ногі, а ў чатырох сякуць, па двое з кожнага боку. Каторыя цярпяць, а каторыя дык дужа страшна крычаць... А як пачалі татку сеч, дык я самлела... Казалі потым, што нехта параіў за мезены палец кусаць, каб адыйшла, дык кусалі ўсё... Але я прачнуся ды зноў, ды зноў... Помню, неяк зірнула, а сьпіна ўся ўзьнялася ў яго, быццам нарасло на ёй нешта, і кроў ручаём... Сто сорак далі яму шампалоў.

— А потым кажа нехта:—Расстрэльваць будуць!—Паказваюць мне на старэйшага—прасі, кажуць, дык можа даруе. Я гэта падышла, стала на каленцы. За сьлязьмі нічагуткa ня бачу. Але цалую рукі, ногі, прашу. Яны і пытаюць:—А ці страляў твой бацька?.. Я бажуся, клянуся, кажу—ён і страляць ня ўмее зусім... Тады яны:—Праз гадзіну расстрэліць!.. Я і самлею. Яны загадаюць тады бабам, каб адцiралі. Ада-

труць, яны ізноў:—Ці страляў бацька?—Я сваё. Яны зноў—расстрэліць! Я зноў самлею. Ачнуся і зноў прашу, зноў рукі, ногі цалую... А яны дапытваюцца. Але-такі пусьцілі яго... Ды ўсё роўна, год толькі жыў ён пасьля таго. Гэта-ж ня жарты—сто сорак шампалоў...

. . . . . . . . . . . . . . .

Беларус умее расказваць. Але беларус умее і помніць. Успамін аб гэтых зьдзеках, аб гэтым крывавым балі разьюшанай белагвардзейшчыны беларус панясе з сабой у будучыну. Ён зьбярэ сваю крыўду, зьбярэ яе да дробнага каліва і калі-небудзь пакажа «на сьвет цэлы», калі-небудзь патрабуе адказу за гэтую крыўду.

І тады гэтыя засечаныя да сьмерці, гэтыя спаленыя жывымі ў агні, гэтыя затопленыя ў калодзежах зьявяцца грознымі сьведкамі крывавай мінуўшчыны, чорныя цені якой лунаюць над кожным кутком вольнае Беларусі.

---

**Міхась Чарот**

# Сей, сяйбіт, сей!

Сей, сяйбіт, сей.
Зёрны разносіць вецер...
Над магіламі чорных дней
Радасьцю сонца сьвеціць.
Сёньня мы ўсе у агні.
Лес так віхурыцца вецьцем...
Сьветла—бурлівыя дні
Будуць любіць нашы дзеці.

Сей, сяйбіт, сей!
Мужыцкаю цьвёрдаю жменяй,
Не палохайся белых завей—
Вясною узойдзе насеньне.
Сёньня жыцьцё скалыхнём,
Сэрца балюча... ў крыві...
Мілы і ціхі мой Нёман,
Брата на волю заві.

Сей, сяйбіт, сей!
Над дзёрнам зарослай магілы...
Ня зможа ліхі сухавей
З намі памерацца сілай.
Сёньня мы роджаны бурай,
Сьпеў сонца мяне разбудзіў...
Брат Захаду, брат мой пануры,
Сьмела, сьмела ідзі!

Сей, сяйбіт, сей!
Сей, дзе крыжы і магілы...
У сэрцы так многа надзей—
Ніколі ня буду пахілым!
Сёньня сьмяюся—ня плачу,
Зьнікае цень чорнай мяжы...
Конь мой верны адважна скача
Ў тыя дні, дзе прыгожа жыць!

**Уладзімер Дубоўка**

# Урывак з мэлёдый „Плач навальніцы“

Нізка мэлёдый „Плач навальніцы“ ўваходзіць у падрыхтаваны да друку зборнік вершаў „Наля“. Мэлёдыі зьвязаны з наступным фактам:

У сьнежні месяцы мінулага году польская дэфэнзыва арыштавала 3-х сялян у Сакольцы (Заходняя Беларусь) і страшэнна катавала і біла іх. Асабліва сурова каталі селяніна Ўладзімера Шаха, якому зьвязалі рукі і ногі разам, а паміж локцяў прасунулі шаблю і пасьля гэтак моцна зьбілі, што ад уздрыгу цела зламалася шабля. Калі з Шаха пачала ліцца кроў, яму ўлілі ў нос некалькі бутэлек вады і воцту.

Трое іх.
    Гаманілі з гаем.
    Гаманілі з полем.
    Гаманілі з жытам каласістым.

Трое іх.
    Працавалі рана.
    Працавалі позна.
    Працавалі, сілу слалі лістам.

І труды парожныя сіратою заусёды,
нявыходнаю госьцяй у хлебе мякіна.
    І для панства зьбіралі—складалі слодыч
    ўтраіх, як і ўся краіна.

Помста йдзе.
    Галасіла поле.
    Галасілі стрэхі.
    Галасіў чарнобыль на памежку.

Помста йдзе.
Напілося болем,
напілося рэха,
напіліся крыўдай тыя сьцежкі.

І сьціскалася ў вуснах нявыказнае гора,
і тапілася ў вочах часіна адплаты.
Каб за тое, за ўсё, што сягоньня і ўчора,
вогнішчамі абшары палатаць.

Ці затым?
Павязалі рукі,
павязалі ногі,
павязалі цела,—дух зьвязаць няможна.

Ці затым?
Завязьлі на мукі,
завязьлі на рогат,
завязьлі на зьдзек паноў вяльможных.

Гаманілі хвалі—расхадзіўся Нёман,
гаманілі хмары—неба спахмурнела.
Гэта мы залічым, гэта мы успомнім,
калі словы popстануць агнявейнай дзеяй.

А цяпер—
пакрышыце косьці,
пакрышыце гэтым,
пакрышыце новым невядомым.

Трэ' цярпець—
вецер помсту носіць,
вецер будзіць нетры,
вецер ад Усходу будзіць міліёны.

І за ўсе за мукі, і за воцат горкі,
і за ўкрыжаваньне гэтых і наступных,—
на ушэсьці скажа дух нязломны горда:
мы пазналі радасьць—вы пазнайце смутак.

Трое іх.
Гаманілі з гаем.
Гаманілі з полем.
Гаманілі з жытам каласістым.

Трое іх.
Працавалі рана.
Працавалі позна.
Працавалі, сілу слалі лістам.

Гэтых трох імёны, сьвяткаваць прымусім
мы паноў вяльможных: злосьць-жа іх ад страху.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

За братоў маіх Заходняй Беларусі
стаўлю ў песьні помнік Ўладзімеру Шаху.

19/I – 26. Масква.

---

**Кузьма Чорны**

# Сьлёзы і кроў

> На Беларусі вада з крыві,
> Палеткі з курганоў і крыжоў.
> Хто нож ёй у грудзі ня ўбіў?..
> Ня плюнуўшы ў твар, хто прайшоў?..
>
> *П. Шукайла.*

I

Адыграўшая ў свой час выдатную ролю ў разьвіцьці культур суседніх народаў, цэлыя вякі пасьля пакутавала Беларусь; працоўныя масы яе пад'ярэмлены былі двойчы— соцыяльна і нацыянальна.

У вечнай стомленасьці, з потам і сьлязьмі, сярод шэранькага дзерава душных хат, у беднасьці і непакою, спрадвеку цягнулася гэтае жыцьцё. Ад гэтага жыцьця жанчына пад трыццаць год здавалася старою—зьвяўшы твар яе з самых маладых год набываў усе адзнакі цяжкае заклапочанасьці, і вочы глядзелі тупа.

Маці трымала на руках дзіцянё, і яе постаць тады магла быць вялікім увасабленьнем адвечнага гора і сьлёз.

Гэтая адвечная няпраўда, гэтая весялосьць адных, вырасшая на пакутах другіх, выявілася, як забітасьць і загнанасьць адвечных бедакоў вяскоўцаў, як забітасьць і ціхасьць голых і босых жыхароў мястэчак і гарадоў.

Тут у нас, на нашай вялікай горам зямлі,—Беларусі— яшчэ і другая «форма» прыгнечаньня выявілася найбольш, як дзе. Ляжыць зямля Беларуская там, дзе ганаровыя дыплёматы і політыкі, вялікія гандляры, «апякуны культур», заваяваццелі пракладвалі шляхі для сваіх паходаў, знаходзілі месца для сваіх крывавых спатканьняў.

Беларусь, разам з Украінай, дала новы від пакутніка— назва якому бежанец, уцякач.

І пасьля гэтага, у нядаўныя гады, новая бяда агарнула працоўную Беларусь. Аддаўшы лепшыя сілы свае, разам з рабочымі і сялянамі ўсіх народаў, насяляючых абшары былое царское Расійскае імпэрыі, барацьбе за Вялікі Кастрычнік, Беларусь ахвачана была находам бела-польскай арміі.

Жудаснасьць гэтая навекі пакінула глыбокія сьляды на нашых гонях.

Усё гэта ўва ўсёй вастраце сваёй устае ў памяці цяпер, калі беларускія вёскі на Захадзе задыхаюцца пад новай панскай навалай пілсудчыны.

II

У той нядаўны час, калі сьлёзы зьмяніліся на кроў і сьмерць,—адчутае і перажытае, ці змагло расказаць аб сабе будучым пакаленьням глыбінёю сьлядоў сваіх?!

Я тут раскажу некалькі фактаў, якія адбыліся на Случчыне. Гэта—кропля ў крывавым моры пакут беларускіх вёсак...

Малоў ён муку ў сваіх сенцах, у жорнах саматугам,—селянін у Селішчах, што восем вёрст каля Слуцку. І тады ціха і спакойна ўвайшло двое польскіх салдат, так-жа ціха адцягнулі яго ад жорнаў, вывелі на двор і далі прыкладам у твар.

Проста так, на пацеху.

Далі другі раз, пасьля яшчэ спакайней трэці раз, і тады надышла сьмерць.

У век тэхнікі, у век аўтомобіляў, бранявікоў, узброеных паветраных караблёў, танкаў і мінаносных караблёў—хто застаўся дамалоць муку на першабытнай прыстройцы—саматужных жорнах у цёмных сенцах?!

Тады Селішчы бараніліся—моладзь пайшла ў партызаны.

У адзін дзень, зноў польскія салдаты разышліся па селіцкіх хутарох. І вось злавілі зноў селіцкага чалавека.

Таму было за сорак год, гэтаму за дваццаць.

У лесе было зацішней, мусіць, мучыць; дапыталі і тады павялі яго. Мучылі тут у лесе таксама паволі. Адрэзалі вуха, пасьля пачалі выбіваць зубы.

Выбівалі ўсе да апошняга. Так нацешыўшыся, пакінулі там уміраць.

Ніхто ня ведае, колькі там канчаўся ён—гэты селянін з Селішчаў. Можа ён там канчаўся ўвесь той астатак дню і ноч, можа зваў каго.

Лес маўчыць.

Акрываўлены мох, лясная трава—нямыя сьведкі, ды засталіся яшчэ сьлёзы і боль родных.

Там-жа непадалёку Еўлічы пылалі ў агні.

Куды было дзецца?

III

У гарачыя дні на сухую зямлю асыпалася перасьпелае жыта. Яно мясцамі зжата было і глумілася ў перасохшых снапох, мясцамі стаяла нязжатым—ламалася саломаю і ападала. Палявыя дарогі маўчалі цяжкім пылам—пустыя былі яны ў тыя дні...

Як-бы гэта было ўвасабленьне вялікага жаху сьмерці—якая ўзьнялася ўва ўсім сваім вонкавым маўчаньні.

Гарачыя дні маўчаньнем сваім павялічылі гэты жах.

У такі дзень, 20 ліпня, гарэла вёска Кулакі, што ў Капыльскім раёне.

У поўдзень прышлі сюды 5 чалавек польскіх салдат. Можа кожны з іх паасобку—і напэўна што гэта так—думаў тады аб сваім пакінутым недзе там у Пазнані ці за Калішам полі з маргамі бульбы і загонамі пшаніцы; у глыбіні істоты кожнага з іх паасобку, мусіць, варушыліся адценьні жалю і смутку па блізкіх людзях—там можа дзе і брат меншы быў хворы, і бацька стары немагушчы...

Але аб гэтым няможна гаварыць адзін аднаму, гэта трэба задушваць, і вось яно пералілося ўжо ў іншыя формы і паднялося як нянавісьць да таго, хто жыве тут на гэтай чужой зямлі. І вось яны—ужо ўвасабленьне панскай дзяржавы, самі, вышаўшыя з «хлопаў»—абаронцы прыгнечаньня гэтых хлопаў і сьляпая жалезная сіла яснавяльможных.

Панская Польшча! Выведаўшая за часы царскага расійскага панаваньня ўсю цяжкасьць прыгнечаньня і цяпер стаўшай найяскравейшым узорам краіны з самым цяжкім пры-

гнечаньнем слабага моцным: мужыка панам і народу народам, і за замацаваньне гэтага прыгнечаньня выступіўшая тады ваяваць.

І вось у вёсцы Кулакох пяць салдат пайшлі па вуліцы, прайшлі, як гаспадары над забранымі.

Што будуць рабіць гэтыя салдаты?

Салдаты пачалі грабіць. Тады на абарону вёскі падышлі партызаны—з-пад мястэчка Цімкавіч, вёрст за тры.

Пяць польскіх салдат весела вярнуліся ў Кіявічы, да сваіх галоўных сіл, і вось неўзабаве адтуль пад вёску Лешню вывезьлі батарэю і пачалі біць па вёсцы Кулакох. Па запалоханай і забітай вёсцы, дзе ня было аніводнага вайсковага, ніводнага салдата і нават амаль ня было моладзі. Заставаліся тут тады жанчыны, дзеці, стомленыя работай і трывожным непакоем гаспадары.

Так адбыўся абстрэл гэтае вёскі, абстрэл з батарэі, 20 ліпня 1920 г. Як абстрэл спынілі, прыслалі тады сюды 50 салдат. І вось гэтыя 50 чалавек—у 20 мясцох пачалі падпальваць вёску. Падпальвалі праз кожную хату.

Хаты нізенькія і салома стрэх сухая—падыдзе салдат да хаты, запаліць запалку і ўткне ў салому страхі. І тады спакойная вясёласьць зьяўляецца ў яго.

І патроху, неўзаметку, гэта перайшло ў пацеху, і гэтага стала здавацца мала. Трашчыць толькі салома і дрэва ў агні, трэба яшчэ, каб хто, канчаючыся ў ім, крычаў, зваў на дапамогу, маліўся аб паратунку, моцна кідаючыся і чуць варушачыся ў пакутах.

І вось злавілі селяніна Макарэвіча Мікалая, абабралі яшчэ непадпаленую хату, увялі яго туды, замкнулі і хату падпалілі.

Што адчуваў селянін Макарэвіч Мікалай, седзячы зачыненым у падпаленай хаце, абкружанай польскімі салдатамі?! Ці мог цяпер яшчэ думаць ён аб зглумленым жыцце на полі?

У вагні і дыме высыхаць стала сарочка, чорным потам прыліпшая кагадзе да цела, і змучанае трывогамі апошніх дзён цела набыло раптам нэрвовую сілу, якая здольна ў востры момант рвануць чалавека на нечалавечную патугу, а

пасьля кінуць яго ў зьнямозе на зямлю. І рвануўся ў агні селянін Макарэвіч.

Салдатам надакучыла, мусіць, трохі аднастайнасьць забаўкі, і яму ўдалося выскачыць з агню, і пабегчы ў нямым жаху. Так удалося яму збавіцца.

IV

Хто думаў з храбрых абаронцаў яснавяльможнае Польшчы аб тым, нашто гэтая маленькая забаўка ў ціхай, багатай лапцямі, саматужнымі жорнамі і ліпкім потам стамлёных ног беларускай вёсцы, забаўка, якая праз паўдня тут-жа і забудзецца зусім і назаўсёды, як толькі зьнікнуць з вачэй попел і абсмаленыя косьці?!

Перад тым, як падпальваць, пакінулі страляць. Так і стала зусім ціха тут.

Крык тануў тут-жа на вуліцы, а як гарэла салома і дзерава, толькі ціхі трэск быў—і больш нічога.

Таксама ціхенька згарэў і ён—малы, пяцёхгадовы. Гуляў ён ціха ў хаце, пасьля падпалілі хату, і ён там ;кончыўся. І ўсё. А перад гэтым ён у зрэбнай сарочцы бегаў па вуліцы, плакаў, калі яго пакідалі аднаго, ідучы на работу, можа часамі недаядаў, а пасьля, вырасшы, мог недасыпаць ад мноства работы... А цяпер згарэў, задушыўся ў дыме.

Ён там у агні і дыме мусіць заплакаў моцна, заенчыў, пазваў матку, пасьля скурчыўся, пасьля выпрастаўся на апаўшых гарачых вугольлях,—але хто яго чуў адтуль?! А калі хто й чуў—хто што мог зрабіць.

На вуліцы стаялі салдаты Польшчы, далей за дымам і апаленымі платамі, дзе пачыналася поле,—людзі. А тут хто быў—для яго была вялікая адзінота. А для анямелага дзіцяці, твары салдат, якімі яго палохалі,—калі ён бачыў іх—ці не здаліся яны яму вялікай пустыняй? А ў пустыні заўсёды маўчыць пясок і жаўцее спакойна неба.

Ціха і спакойна! І хто там пачуе плач дзіцяці!

V

Цяпер ён стаіць сівы, стары, са змучаным жыцьцём тварам. І толькі ў вачох яго гараць агні, калі ён расказвае

аб тым, як прабавалі выхватваць яны з агню набыткі свае. Як лавілі іх, адбіралі з рук і кідалі назад у агонь. Як схваціў ён два кажухі, а яго злавілі з вясёлым сьмехам:

— Кідай у агонь!

Ён маўчаў.

— Кідай у агонь!

І схвацілі за рукі, заламалі іх назад. Тады ён у сьлёзах і болю прыгнуўся, як-бы хацеў кінуцца на зямлю і прыпаў губамі да рукі польскага салдата.

Жыць жадаў бядак!

У часе вялікай барацьбы за зьнішчэньне прыніжанасьці чалавека перад чалавекам, Польшча прыслала на Беларусь абаронцаў гэтае прыніжанасьці. На Беларусь, якая нядаўна тады ледзьве пазбавілася была ад «далікатнага» панства, з абцалованымі белымі рукамі. І вось гэты ваяка за Польшчу раптам выпусьціў рукі злоўленага вяскоўца і пусьціў яго. Можа пасьля ён і хацеў вярнуць яго, каб і кажухі яго і яго самога кінуць у агонь, а тады—пусьціў: захапленьне ахваціла яго, калі чалавек прымушаны быў прынізіцца перад ім...

І вось злавілі яны хлапчука—было яму тады гадоў трынаццаць. Злавілі, патрымалі, а пасьля пхнулі і пагналі па вуліцы. І як пабег ён, зноў злавіць яго пажадалася ім і пачалі даганяць. Бягучы, ён скінуў сарочку, каб не пазналі яго, а яго пазналі і дагналі. І вось узялі яго за плечы, падвялі да сьцяны, што не пасьпелі яшчэ запаліць, і пачалі біць ім аб сьцяну.

— Чаго яны ад яго хацелі? Чаго ім ад яго трэба было?

І вось вясковец. Угледзеў ён, як падышлі падпальваць яго хату. Тады з свайго двара кінуўся ён уцякаць. Пабег у бок палеткаў і адчуў, што па ім страляюць. Тады ён упаў і папоўз. Так, пад абстрэлам, поўз ён да сьпелых ячмянёў і там у трывозе і непакоі лёг на зямлю. Там і ляжаў.

У другім-жа канцы, ахвачанай агнём вуліцы, лавілі і білі сялянак.

Білі жанчын.

Маці, сястра—стаялі ў агні перад сьцяною яснавяльможнае панскае сілы, стаяла вечная пакутніца зямлі—прыбітая, зьняважаная. Маці сканаўшых у агні дзяцей, прыбітых га-

лавою аб сьцяну, маці дзяцей, уцёкшых у вялікай трывозе ў поле, страшнае цяпер і адзінокае. Сястра забітых жалезам у твар, заведзеных у лес на пакуты, жонка ўкінутых жывымі ў агонь.

Вялікая жанчына Беларусі—сялянка!

У яе не высыхаюць сьлёзы на зморапым твары, сьлёзы па загінуўшых у пакутах.

Гэта маці тых гэрояў-сялян, якія трымалі некалькі месяцаў фронт на Бабруйшчыне, замяніўшы, калі трэба было, рэгулярную Чырвоную армію.

Білі ў вёсцы Кулакох жанчын, а сама вёска дагарвала. Ціха, як сьвечка, ужо нават і нямоцны трэск дзерава ў агні сьціх.

Пацеха была скончана, а пацешыцца хацелася больш. І вось прабавалі зганяць сялян, і чуваць была гаворка афіцэраў, што «патрэбна сабраць усіх і залпамі пастраляць».

Канчацца пачынаў дзень. Хто вырваўся з салдацкіх рук, хто раней пакінуў роднае попелішча—нечага тут было ўжо вартаваць. Усё было скончана, быў попел, вугольле, абсмаленае дзерава і абгарэлыя косьці.

Тады палякі ўспомнілі аб пажыве. Знайшлі выратаваную жывёлу і пагналі з сабою цэлае стада. Яшчэ знайшлі коняй і пагналі з сабою 25 самых лепшых.

Канец дня прынёс канец усяму на гэтым маленькім куточку Беларусі. Нацешыўшыся і пажывіўшыся, зьніклі яны, тут-жа, мусіць, забыўшы ўсю гэтую справу. І на месцы вёскі Кулакоў застаўся чорны твар руін і немая пустыня душ; страшная пустыня ў паўнаце, бо нічога ня было выплакана і нічога ня было выказана.

І цяпер, сівы і слабы, стаіць ён. Выпакутваўшы ўсё гэта, аддаўшы чорным здарэньням сваю жыцьцё-радасьць, ён захаваў у сабе вялікую чуласьць. І вось па яго абветраным у полі твары, па маршчаках, на сівую бараду цякуць саромлівыя ціхія сьлёзы.

І ён ледзьве выгаварыў адну фразу, якая сказала ўсё. Ён сказаў:

— Колькі здароўя адабралі!

І больш нічога не гаварыў. І ўсе, хто быў тут, думаючы аб усім гэтым, былым, памаўчалі ў тую хвіліну...

Сем год прайшло. Хаты забудаваліся новыя. Забудуецца ўсё. Улетку поле зноў шуміць жытам і ўвосень цешыцца зялёнаю руньню. Зямля на сабе згладзіла сьляды.

Але ці згладзяцца сьляды у людзкіх істотах?

Ніколі ня гляне весела сагнутая горам постаць і ніколі ня вернецца «адабранае здароўе».

Маленькі куточак зямлі ўпісаў у гісторыю Беларусі—у гэтую гісторыю толькі адных пакут краіны, пакут стагодзьдзяў—гісторыю новай пакуты. Упісаў, як новы помнік Польшчы на Беларускай зямлі, грозны і бурны ўва ўсёй сваёй ціхасьці.

VI

У Случчыне яшчэ вёска Быстрыца ўведала польскага салдата і афіцэра.

Быстрычанін павёў у кузьню раскоўваць каня, і там-жа гэтага каня польскі салдат адабраў. У той-жа дзень у другога быстрычаніна забралі каня з дому. І рабавалі ўсё—і палотны, і адзежу,—такія «дробязі», як сялянская зрэбная адзежа лічыць і не патрэбна было ім, але тут быў нейкі «ваяцкі прынцып».

У суседніх вёсках Дзярэчыне забралі табун коняй, у Мацкевічах—таксама табун коняй. Убачылі на быстрыцкіх палёх стада кароў—і сэржант польскае арміі Шуба заявіў аб патрэбе забраць і іх. Забралі.

Гэта было ўлетку, калі адступалі.

А зімою, у час «мірнае стаянкі», днём на вуліцы білі быстрычаніна Васіля Бабейку—старога, год семдзесят.

Білі кулакамі ў твар, дзеравам вінтоўкі ў грудзі.

Летам, як забіралі ўсе набыткі, некалькі сялян пробавалі бараніцца—і вось цяпер шукалі «кіраўніка гэтае абароны».

І рабілі допыты над сялянамі—кулакамі, жалезам і дзеравам.

Перад самым адыходам са Случчыны, па Рыскай згодзе, яшчэ пасьпелі наладзіць суд над шасьцю быстрычанамі. Судзілі за тое, што ў іх вёсцы было некалькі прыаружаных ся-

лян, якія некалі прабавалі бараніцца, калі ў цэлай вёскі забіралі коняй, іншую жывёлу, дробныя рэчы. Засудзілі на розныя тэрміны турмы—некаторых на восем год. Зразу-ж пасьля суду прышлося ім пакідаць Случчыну—увайшла ўжо ў сілу Рыская ўмова. І засуджаных сялян павезьлі з сабою ў Польшчу. Павезьлі з беларускай зямлі беларусаў у польскія турмы. Прышлі, аграбілі, пазьдзекваліся, а калі прышлося пакінуць акупаваную зямлю, павезьлі з сабою, у свае турмы.

За што? І дзеля чаго?

Ці не для ўрачыстасьці шляхотнае дзяржавы яснавяльможнае Польшчы?

Усё перанёс беларускі селянін. Усякія пакуты ўведаў, і ў вострыя моманты на ўсё здольны. І вось, дзякуючы вялікай напружанасьці настрояў, вялікай рашучасьці, засуджаным удалося ўцячы з падарожжа ў Польшчу.

## VII

Бачыў я адно здарэньне—польскі афіцэр патрабаваў у сялян нейкіх коняй, нейкіх фурманак, яшчэ нечага—малапатрэбнага яму. Нехта спрачаўся, нехта нешта сказаў... Тады ён закалаціўся ад злосьці, ударыў каня свайго шпорамі і пад'ехаў да бліжэйшае хаты, гатовы падпаліць салому яе страхі.

Было гэта ў мястэчку Цімкавічы, у пачатку лета.

Нехта заплакаў, нехта закрычаў.

І от падышоў хворы, стары гэбрэй Г. С. Ён яшчэ некалькі момантаў пастаяў, як-бы ня могучы адразу зразумець становішча рэчаў. Пасьля баязьліва папрасіў:

— Панок, ня губеце людзей.

Панок строіўся падпаліць страху.

Тады зноў сказаў ён:

— Панок, ня губеце людзей.

Моцна ён ня мог таварыць, вочы, поўныя сьлёз ад старасьці, падняў высока—на ўзровень твару пана. Панок тады моцна закрычаў на яго.

Тады ён прыгнуўся ўсёю постасьцю, раптам прыблізіў твар да стрэмя і пацалаваў у бот панку. І тады панок ад'ехаў злосны і горды.

Ці не ўвасабленьне гэта ўсяго таго, на чым і з чаго пабудавана панская цывілізацыя?!

У гэтай пакорлівасьці старога і хворага я ня ўбачыў рабства. З гэтае «пакорлівае» ціхасьці выліліся пасьля хвалі паўстаньняў на ўсёй Беларусі, гарэў агонь вялікага змаганьня за права чалавечнасьці...

## VIII

Цяпер, калі Беларусь яшчэ ўсё пакутуе, аблітая крывёю і сьлязьмі на ўсім Захадзе сваім, хіба можна спакойным быць і ня быць у вагні і бурах?!

Расстрэленыя на родных палёх, зажыва спаленыя ў сваіх уласных хатах, ня могшыя нават падаць голасу аб дапамозе, катаваныя ўсімі спосабамі, якія толькі да гэтых дзён прыдумала навука і тэхніка буржуазных цывілізаваных краін— вось сьляды ясназяльможнае Польшчы ў нашай краіне, Беларусі.

Глыбокая культура беларускіх рабочых і сялян, прыдушаная вякамі і цяпер ва Ўсходняй Савецкай частцы Беларусі вызваленая з-пад ярма, атрымаўшая магчымасьці разьвівацца, высока разьвіўшыся і даўшы вялікія каштоўнасьці ў скарбніцу будучай інтэрнацыянальнай культуры,—зьявіцца вялікім культурным помнікам над усімі пакутамі Беларусі.

Наша задача больш дасканала вывучыць ахвяры, якія былі вырваны з Беларусі находам Польшчы. Вывучыць і больш падрабязна заявіць аб іх, каб панская Польшча, якая душыць цяпер Заходнюю Беларусь, не гаварыла аб Беларусі, як аб нейкім козыры, якім можна «казыраць», а каб яна прымушана была сказаць, што гэты «козыр» ёсьць жывая істота, ахвачаная вострымі пакутамі, у крыві і сьлёзах.

Вырасшы ўсёй глыбінёю свае культуры, працоўная Беларусь вялікасна і грозна заявіць аб перажытых ёю пакутах, і ў час вялікага суду, разам з рабочымі і сялянамі іншых краін, будзе судзіць сваіх катаў.

У соцыяльных рэволюцыях ідзе гэты суд.

«Усю крыўду за сваю айчыну мы вылічым у судны дзень».

**А. Дудар**

# Братом на Захадзе

Ці-ж мы адны, ці-ж мы адны ў полі?..
Над намі ноч,
за намі
дзікі гнеў.
Мы ворагам дары не панясём ў прыполе,
нам вораг сьпіны не сагне.

Няхай ідуць,
няхай нажы гатуюць.
Наш шлях адзін:
заводы і палі.
За будучыну нашу залатую
ня шкода нам
мінуўшчыну спаліць.
Жыве краіна наша дарагая—
ці-ж напужае нас
зьмяіны шып і сьвіст?..
Зара пунсовая над гаем дагарае,
і бронзаю зьвініць
з бярозы белай ліст.

Зьлятае ліст
над Нёмнам
і над Бугам
на поле панскае,
на панскі луг.
Няма між іх
ні брата нам,
ні друга,
варожы ім
і молат наш
і плуг.

Мінаюць дні,
мінаюць і хвіліны.
І прыдзе час—
апошні страшны бой,
калі ізноў наш вырай сакаліны
паднімецца над панскай галавой.
Мінаюць дні,
мінае і няволя.

Мінаюць дні
і час бяжыць угрунь...
Ўжо хутка разам
на агульным полі
спаткаем мы чырвоную зару.

---

**Андрэй Александровіч**

# Фабрыка сьмерці

Сучасны лад у Польшчы зьдзекамі і катаваньнем працоўных Заходняй Беларусі перасягнуў былую царскую Расію.

*(З газэт).*

Краіна родная!.. Дарогі крыжавыя,—
Скажыце гоманам нахмураных прысад:
— Глумілі нас фэльдфэбелі Расіі,
Як быццам поле ў буру буйны град!..

Дарыла торбы нам, жабрачыя дарыла,
«Культура» чорная разьюшаных баяр.
На струны з нас зьдзіралі нашы жылы,
Смакталі кроў: памешчык і жандар!

Сьвету яснага ня бачыў край вякамі,
Грудзі кволыя сьціскаў халодны мур.
Слова роднае закоўвалася ў камень;
Народ наш знаў—турму і сьмертны шнур!..

Прайшлі гады... Народ з няволі вышаў,
Жыцьцё інакшае спаткала Беларусь!
Але мы помнім, помнім на Лукішках—
Быў павешаны адважны наш Кастусь.

І сёньня... там... у заграцічных ботах
Жандары-найміты крываваю разьнёй
Нашых змучаных братоў за польскі «злоты»
Зьвярына катуюць, накінуўшысь грунём.

Зарасьлі былі сьляды баяр праклятых,
Загінуў бляск фэльдфэбельскіх пагон.
А сёньня... там... будуюць казематы!
А сёньня... там... няведамы прыгон!

Па сыпінах мужыкоў ангелькі сьвішча шомпал,—
Гуляе паншчына—пракляты чорнацьвет.
— Чаго-ж маўчыць культурная Эўропа?
Крык зьняволеных даносіцца ў сусьвет!

Зноў лукіскіх камер не хапае,
Зноў шляхі афарбавала кроў...
Што-ж паноў разбэшчаных стрымае?
Правіць турмамі Пілсудзкі-Мураўёў!

Але шляхі адважнага змаганьня
Ня змые паншчына кіпучаю крывёй...
Засьвяціць новых дзён агністае сьвітаньне!
Ўзаўецца серп і молат над злучанай зямлёй!

... Краіна родная! Дарогі крыжавыя,—
Гудзіце гоманам нахмураных прысад:
— Польшча сёньня—як царская Расія,—
Краіна сьмерці!... Краіна цёмных крат!..

---

**Анатоль Вольны**

# Гэта праўда—лягендаю будзе

„Над магіламі чорных дней
Радасьцю сонца сьвеціць“.
*Міхась Чарот.*

I

Па рознаму паміралі беларускія сяляне вёскі Восава, што на Бабруйшчыне,—аднаму перасеклі горла, другому выкалалі вочы, трэцяга засеклі бізунамі, Паўлу Багдану расьсеклі галаву ў некалькіх мясцох, за крывёю і кавалкам мяса яго твару ня было відаць, але гэтыя акрываўленыя кавалкі чалавека яшчэ некалькі гадзін рухалі нагамі...

Перада мной паўстае вобраз маёй маці!..

Гэта ты,—сьляпокая Беларусь!

Мая маці прасьцягае сусьвету свае змучаныя рукі, глядзіць на яго сінім поглядам, у якім я ня бачу сьлёз, але тым сільней увесь жах гэтага погляду, поўнага стрыманага гневу.

Так заўсёды, калі перада мною паўстае гэты вобраз, я выразна, да фізычнага болю, адчуваю яго раны.

Пакутніца маці, працягні свае змучаныя рукі,—хай глядзяць на іх,—нічога, што яны спалены да касьцей і на іх крывавыя раны. Гэтыя раны—жывы летапіс нячуваных у гісторыі вякоў катаваньняў, якія ты вынесла ў імя нашага сёньня.

Неба тваё на Захадзе ўкрылі тонкія чорныя фарбы, якія звычайна бываюць пад вачыма, выплакаўшымі ўсе сьлёзы.

Пакутніца маці!.. Толькі ты здолела вытрымаць гэтакія нечалавечыя катаваньні бяз крыкаў, моўчкі,—так ціха, што катаваньні аднэй вёскі ня былі чутны ў другой, настолькі проста, што аб зажыва спаленых, аб зажыва пахаваных ты сарамліва змаўчала.

Я раскажу аб гэтым нявыказаным, я скажу і тое, аб чым я не хацеў казаць...

Я бачыў надоечы сьлёзы сялянак пры ўспамінах аб гэтым.

Я яшчэ адно скажу, самае жудаснае,—я бачыў сьлёзы сялян-мужчын, тых мужчын, якія ішлі на расстрэл і вызваляліся сваёй нячуванай сьмеласьцю, тых мужчын, якія загартаваны нечалавечымі катаваньнямі, а цяпер, ня гледзячы на ўсё гэта, плакалі наўзрыд, плакалі, гледзячы на сірат тваіх.

Гэта самае жудаснае, што надоечы бачыў, бо сьлёзы мужчын—камень.

Інквізытары мінуўшчыны са сваімі дапатопнымі катаваньнямі выглядаюць наіўнымі дзецьмі супроць катаваньняў белапольскіх легіёнаў, уздыбіўшых на дзіды Беларусь.

Мы, беларусы,—мы хутка ўсё забываем.

Мы забылі нават і той плач, які ня гэтак даўно нечалавечымі сьлязьмі выплакаўся з Беларусі нашай.

...Разам са ўсімі пачаў аб гэтых сьлёзах забываць і я і забыў-бы, каб ня гэта выпадковая паездка па вёсках Беларусі.

II

У 1918 г., вясною, калі расквітаў барвенак, па вёсках Бабруйшчыны быў вывешаны загад генэрала польскага корпусу Доўбар-Мусьніцкага, які на калечанай «беларускай» мове пачынаў эпопею барацьбы беларускага сялянства словамі:

**ROZKAZ № 1.**

«По приказу Командира Корпуса я трымаючы Упраўленьне Гражданское по усих местох занятых Польским Войском обьявляю усим жытелям, што:

Усе распоряжэния и приказы, которыми «отменялись права частной собственности» тяперь скасованы.

Усе чужое дабро накраденное и награблено по маентках и дворах, скот, кони, «инвентарь», зярно, корм и вообще усе вещи приказываю вярнуть у десять дней.

Кто гэтага приказа не сполнить, будить наказан Ваенным судом.

Усем землевладельцам и помещикам приказываю вярнуться нямедля у двары и маентки и заняться работой. Усе пахоти треба усеять. Незапаханыя поля будуть обсяваться на кошт владельца военными властями.

Усякое имущество русского войска «оружие, боевые припасы»; кони, повозки, упряжь, «обмендировка» и прочія вещи приказываю вярнуть до 1 апреля с. г. по селам у волость, по городам у «Городскую Управу» для передачи Интендантству корпуса. Зважаючы, што Польская Власть навсегда была и будет справядливой для усих, запрящаю усякую месть за то, што было зраблено у смутное время. Кто будет мстить, того накажу по законам военнага часу. Усе беспорядки и раздоры, усе атчаго тяпер гибнет государство, усе гэто идет оттого, што народ беларусский темен, а поэтому треба усим разом узяться за работу, штоб дать народу свет. Вученыя люди должны нямедля закладать по селам и вескам школы, пріюты, «опытныя поля» и «сельско-хозяйственныя общества». Гражданскоё Управление дасть у гэтом свою помочь.

Усем треба строго сполнять свои обязанности.

Обяўляю усим уперад, што кто не сполнить гэтого приказа Гражданскаго Управленья, кто будеть сопротиўляться з оружіем тот будет наказан строго «по законам военнаго времени вплоть до примененія смертной казни».

Сподеваюся, што усе дружно стануть на работу и при помощи усих жителей скоро по усему нашему краю запануеть порядок и покой».

**Naczelnik Zarządu Cywilnego**
podpułkownik **Aleksandrowicz.**

Радавіты падпалкоўнік Александровіч, які ганарыўся нават продкамі сваіх коняй, загадаў «беларускаму цёмнаму народу» спатыкаць чалабітнай паноў.

Беларусь, якая па думцы некаторых скудавумных людзей і прафэсароў, выяўляе сабою прыклад цярплівасьці без

шляхецкіх рухаў, ціха, але ўпарта адмовілася варочаць польскаму генэралу «зярно, корм и вообще усе вещи».

Невялічкія, палатаныя вёскі вышлі на барацьбу з корпусам генэрала.

Трэба аддаць павіннае шляхецкай арміі,—яе ліхія рэйды супроць старыкоў і дзяцей былі надзвычайна сьмелымі, ня гледзячы на тое, што сучасныя «рыцары» шляхты так далёка непадобны да чэсных рыцараў аповесьцяй Гэнрыка Сянькевіча.

Трэба аддаць павіннае і беларускаму сялянству, не апяянаму ні адным Сянькевічам, аб іх сэрцы можна было-б высякаць іскры,—настолькі яны былі цьвёрдымі.

І самае нячуванае, самае страшнае, нявыказанае гэтымі сэрцамі, наперадзе,—аб ім я хочу казаць...

III

> 22 беларускіх селяніны вёскі Восава 2-га бабруйскага раёну, замучаныя белапольскай шляхецкай арміяй 10-VII—1920 г. пасьля нечалавечых катаваньняў: Хадасевіч Сьцяпан, Хадасевіч Зінаіда, Бобрык Фама, Бобрык Сьцяпан.
> ІМЁНА ЗАЖЫВА СПАЛЁНЫХ: Хадасевіч Сямён, Хадасевіч Міхась, Шчэпінскі Фэлікс, Хадасевіч Адам, Хадасевіч Цімох, Ніцкі Антон, Багдан Павел, Сымончык Фёдар ды іншыя.

Захмялелі хмурыя вёскі ад волі...

Ды раптам сівер, халодны сівер прабег па сялянскіх гонях.

Ноч чорнымі кудрамі ўкрыла вёску.

І гэтаю ноччу забытая вёска Бортнікі разгортвала свае крыльлі.

Вёска адмовілася жыць у згодзе з суседнім маёнткам.

Вёска ведала, што пані за гэта адплаціць, і вёска чакала карацельнага атраду шляхецкай арміі.

Першы ліхі рэйд атрадаў рэгулярнай польскай арміі невялічкаю жменькаю сялян, узброеных дапатопнымі ружжамі, быў адбіты далёка ад вёскі.

Шляхецкая армія ліха памчалася наперад па напрамку ад вёскі, а сяляне, выціраючы пот, вінавата вярнуліся ў хаты.

Цяпер гэтых сялян ужо няма,—ня існуюць і старыя вёскі Вялікія і Малыя Бортнікі,—яны праз некаторы час «гэройскім» налётам некалькіх атрадаў арміі Доўбар-Мусьніцкага былі спалены, і на іх попялішчы расстрэляны дванаццаць беларускіх сялян...

Сялянкі, у вачох якіх палае больш вялікае полымя, чым тое, у якім былі спалены іх вёскі, словамі, якія ліюцца з сэрца,—крывёю, яшчэ больш гарачаю, чым кроў тых старыкоў і дзяцей, якія былі расстрэляны ў іх вёсцы, ціха апавядаюць аб дзікіх катаваньнях, якія вынесьлі расстрэляныя сяляне.

У архіўных матэрыялах я знайшоў гэткі дакумэнт:

### У БАБРУЙСКІ АКРСАЦЗАБЯСЬПЕКІ.

«Препровождая при сем именной список детей деревни Осово Горбацевичской волости, оставшихся без отцов (и круглых сирот) после бело-польских зверств 10-VII-1920 г., Бобруйский Уотнаробраз убедительно просит Уотсобес не отказать в немедленной помощи названным малолетним невинным жертвам контрреволюции—в белье, одежде и обуви, особенно в первом. Немедленное исполнение изложенной убедительной просьбы жизненны и важны в интересах здоровья и жизни детей, подвергшихся после ужасов пережитого массовым заболеваниям.

Зав. Отд. Нар. Образ. (подпіс).

Секретарь (подпіс).

### ИМЕННОЙ СПИСОК

**детей деревни Осово, Горбацевичской вол., оставшихся без отцов после белопольских зверств от 10-VII-1920 г.**

1. Ходасевич Андрей Сергеев., 10 л. 2. Ходасевич Клавдия Сергеевна, 13 л. 3. Городецкий Емельян Никит., 12 л. 4. Городецкая Екатерина Никит., 10 л. 5. Щерба Савва Степан., 11 л. 6. Мороз Екатерина Данилов., 13 л. 7. Мороз Мария Филипповна, 11 л. 8. Мороз Василий

Филиппович, 9 л. 9. Мороз Федор Филиппович, 4 л. 10. Ходасевич Григорий Васильевич, 11 л. 11. Ходасевич Любовь Васильевна, 13 л. 12. Ходасевич Нина Васил. 10 л. 13. Ходасевич Иван Васил., 7 л. 14. Домород Иван Герасимов, 6 л. 15. Богдан Надежда Николаев., 11 л. 16. Ходасевич Надежда Григорьевна, 12 л. 17. Ходасевич Александр Григор., 3 л. 18. Василевский Степан Иванов., 11 л. 19. Василевский Петр Иванов., 8 л. 20. Василевский Федор Иванов., 6 л. 21. Чирейчик Ольга Адамовна, 6 л. 22. Чирейчик Анна Адамовна, 12 л. 23. Чирейчик Мария Адамовна, 12 л. 24. Чирейчик Констант. Николаевна, 10 л. 25.Чирейчик Ольга Николаев., 7 л. 26 Бебчик Александр Иванов., 12 л. 27. Бебчик Андрей Иванов., 10 л. 28. Бебчик Александр Федоров., 4 л. 29. Бебчик Мария Федоровна, 12 л.

Председатель с-с **Я. Городецкий.**

Секретарь школьсов. **И. Ходасевич.**

22-IV-1921 года».

І гэта ўсё, што я прачытаў у архіўных дакумантах...

IV

Калі я ехаў у вёску Восава, мне здавалася, што стромкія хвоі абапал шляху стаяць зялёнымі сьвечкамі.

Я зайшоў у першую абшчыпаную, як шкілет, хатку, што стаяла пры дарозе.

І сьлязамі пабеглі на падлогу сялянскія словы.

...— Раніцою было, сонца было... Падыходзілі палякі. Моладзь з канямі ў лазе была, над рэчкаю.

На вёсцы з мужчын засталіся толькі старыкі.

— «Нам усё роўна паміраць трэба»—казалі яны, ды ніхто ня думаў, што гэта сягоньня і прыдзе.

І раптам раздалася польская песьня ў нашай вёсцы, і разам з песьняй пачаліся грабяжы.

Каб спакойней было рабаваць, за вёску разьведку выслалі.

За вёскай вясковыя партызаны напалохалі панскую коньніцу.

А і палоху ўсяго было, што нехта стрэліў.

Брат мой, малады яшчэ хлапец, у гумне быў,—схаваўся. Знайшлі палякі. Вушы адсеклі. Шашкамі зарубілі.

Стары бацька-пачаў прасіць у камандзіраў:

— Паночкі, даражэнькія, што-ж вы робіце?

А яго ўзьнялі на пікі і разарвалі.

За поўдзень было, сонца было, сядзелі і галасілі...

...І селянін Уладзімер Бобрык, словы якога я запісаў, змоўк, але крыху падумаўшы, ён вінавата, нібы просячы прабачэньня, дадаў:

— Я ў той час у лазе, за рэчкай з конямі быў,—таму не забілі.

Стары, не па гадох, дзядзька больш не сказаў ні слова. Я бачыў, што ў яго разам са стрыманым гневам закіпаюць ціхія сьлёзы, я бачыў, што яму нявыказна цяжка варушыць свае хворыя нэрвы, і я вышаў.

Мне было цяжка і душна ад гэтых успамінаў, і я, несьпяшаючыся, пайшоў у другі канец вёскі.

Я шмат перадумаў у гэтыя хвіліны і мне нарэшце зрабілася сорамна за тое, што я пакінуў аднаго селяніна, з яго цяжкімі адчуваньнямі, што я не знайшоў неабходных слоў, каб яго супакоіць.

І яшчэ тады я падумаў, што ня толькі я, а і нашая грамадзкасьць павінна ў гэтым.

... На другім канцы вёскі я зноў зайшоў у хату. Я тады думаў: ня можа гэта быць, каб у кожнай хатцы пабывала сьмерць ад шляхецкага разгулу.

У хаце, у якую я зайшоў, жыў селянін Рыгор Савэсьцьянаў.

Па крысе, жменькамі сьціслых слоў выказаў ён мне сваю боль.

— Бацьку майму ў той час было 67 гадоў, маці—65. Наехалі пазнанцы. Удвох забеглі ў хату. Патрабавалі грошай. Бацька адказаў, што грошай няма. Тады адзін з пазнанцаў ударыў бацьку ў твар. Другі схапіў бутэльку з газай, абліў сьцяну і запаліў. Падышлі яшчэ двох пазнанцаў на дапамогу. Нарэшце, бацькоў выцягнулі на двор. Адзін пазнанец прапанаваў весьці старых у адзін бок, другі—у другі. Паго-

дзіліся на тым, што вывелі на агарод. «Марш до лясу!» загадаў пазнанец. Зьбітыя, акрываўленыя старыкі, нічога не адчуваючы, споўнілі загад пазнанца, пайшлі,—і раптам залп па шасьцідзесяцігадовых старыкох. Залп у сьпіну! Бацька і маці ўпалі, а брат, дзесяцігадовы Андрэй, кінуўся ўцякаць.

Са ўсіх бакоў запалала нашая вёска.

## V

Параненаю птушкай памірала вёска. Нібы крывёю з перарэзанага горла, шырокія прасторы неба ўкрыла зарава пажару.

Спачатку, калі мне селянін Бобрык апавядаў аб тым, як у яго бацькі легіянэры адсеклі дзьве рукі, а потым кінулі ў вогнішча, мне здавалася, што я выразна бачу хлынуўшы струмень крыві, якая па залатанай вопратцы зьбягае на лапці, спачатку, калі мне бацькі апавядалі аб згарэўшых дзецях, мне здавалася, што я чую гостры пах гары і бачу абгарэўшыя трупы каля дагараючых хат.

У мяне яшчэ да гэтага часу ня зыходзіць з памяці адзін сівенькі дзядок, які дрыжачым голасам паведаў мне сваю боль, тую гострую боль, якая старыком ніколі не забудзецца: унучка была... 14 гадоў было... пазьдзекаваліся... забілі... царствіе ёй нябеснае!.. перахрысьціўся дзядок і выцьвіўшыя вочы яго пачалі сьлязіцца

Спачатку мне было нястрымана балюча, балюча і за замучаных старыкоў і за забітую 14-гадовую дзяўчынку, па якой так сумуе дзед, але потым, калі я ўгледзіўся ў змораныя хворыя рысы застаўшыхся ў жывых жыхароў гэтай вёскі, мне зрабілася жудасна, мне здалося, што я знаходжуся ў мёртвай вёсцы, вёсцы, якая перажыла інквізыцыю польскай шляхты ў XX стагодзьдзі, вёску, дзе жывуць толькі выпадкова жывыя людзі.

22 трупы беларускіх сялян спаленай вёскі! Восава—быў адзін з помнікаў панскай Польшчы на Беларусі.

Зрабіўшы сваю справу, рыцарскае войска польскай шляхты з песьнямі пакінула вёску.

— Нібы нічога і ня здарылася!..

На другі дзень адбылося пахаваньне. Пахаваньне было, як той вясковы камсамолец казаў,—«буржуйскае»—на конях і кожнаму па труне.

Толькі Цімоха Хадасевіча пахавалі бяз труны—не хапіла дошчак.

VI

Дзіўная душа беларуса. Па кнігах пашыба «Іловайскага» яна-б павінна быць пакорнай. Але, пачынаючы ад паўстаньня Кастуся Каліноўскага і канчаючы хаця-б фактам, які ня гэтак даўно адбыўся ў Заходняй Беларусі—фактам адсячэньня селянінам двух пальцаў на сваёй руцэ выключна для таго, каб давесьці аб сваёй праваце,—усе гэтыя факты ня сьведчаць аб пакорнасьці.

Але самыя ўпартыя з ўпартых,—тыя беларусы, якія спакойна ішлі на пэўную сьмерць, калі ў іх закранеш нейкія патаемныя глыбіні душы, яны робяцца сумнымі і ласкавымі, ласкавейшымі, чым песьня.

Дзіўная душа беларуса. Я глядзеў у яе глыбіні і дзівіўся. І я ўсю праўду скажу аб гэтым...

Жудасныя дні для вёскі Восава,—дні ліпнёвай навалы прайшлі.

Прайшла і зіма 1921 году. Мёртвая белая зіма, у завеях гэтай зімы замярзалі сяляне,—асірацеўшыя, пакрыўджаныя і бяспомачныя, як дарослыя дзеці.

Прышла вясна 1922 году... Прайшло яшчэ пяць вёсен...

Можна ўсё самае дарагое згубіць у адну хвіліну, можна вытрымаць тыя катаваньні, якія немагчыма вытрымаць, можна на вугольлях спаліць свае рукі, каб давесьці аб сваёй праваце, але крывавая абраза, якая засталася на сэрцы, не забываецца ніколі, але мінулае не астыне ў сялянскіх успамінах.

Позна вечарам, калі змрок цёмнай хустачкай агортваў вёску, сяляне, зьвесіўшы галовы пад больлю сваіх успамінаў, ціха прапанавалі мне схадзіць разам з імі да дзяцей, бацькоў якіх польская шляхта катавала.

Я папрасіў сялян адвесьці мяне да Хведара Янкава Васілеўскага, хлапчука 6 гадоў, які ў пыльных архіўных паперах быў запісаны сіратою з вёскі Восава пад № 20.

VII

Двое сялян зайшлі са мною ў хату невялічкага гаспадара.

Хатай я назваў катушок, у які мы ўвайшлі, толькі так—па звычаю. Фактычна-ж гэта былі невялічкія занесеныя сьнегам халодныя разваліны. Замест падлогі ў «хатцы» былі пакладзены жэрдзі.

У кутку гэтага катушка было насыпана пудоў 4—6 жыта. Далей пэрспэктывы жыцьця хлапчукоў-сірат губляюцца.

— Ну, як-жа табе жывецца?—запытаўся я ў Хведара, і тут-жа сам адчуў, што гэта ня тое—аб чым я пачаў гутарку, што хлапчуку ня гэта трэба сказаць, ня гэтым трэба супакоіць.

Мне робіцца балюча і сумна, калі я ўспамінаю гэтыя простыя наіўна-шчырыя дзіцячыя адказы.

— Эт, яшчэ дарма жывецца!

Мілы наіўны хлапчук,—у ім столькі веры ў жыцьцё.

Некалькі хвілін я прастаяў моўчкі.

— Навучыце, як уцешыць васьмі-дзесяцігадовага чалавека, калі вам яшчэ больш балюча, чым таму, за каго вы балееце.

Я маўчаў...

Двое сялян, што са мною прышлі, таксама моўчкі стаялі каля дзьвярэй.

Нарэшце адзін з сялян запытаўся ў малога гаспадара:

— Хведар, дзе брат?

— Ён за цялушкай даглядае...

— Сьляпы ён, асьлеп праз некалькі тыдняў пасьля «гэтага»,—не сьпяшаючыся сказаў адзін з сялян.

Праз некалькі хвілін увайшоў у хату з вялікімі сьляпымі вачыма брат Хведара.

Адчуваючы сваімі вострымі пачуцьцямі, што ў хаце адбываецца нешта новае, ён насьцеражыўся.

Мне ня трэба было задаваць гэтага пытаньня, каб ня кратаць акрываўленыя нэрвы хлапчукоў, але я запытаўся:

— Ці помніце вы, хлапчукі, як спалілі вашу вёску?

Сьляпы брат панура ўсьміхнуўся і сказаў:

— Памятаю пажар вёскі... Памятаю спаленыя хаты... Памятаю каля абгарэўшай хаты труп бацькі... Хведар усё бацьку будзіў. На сенажаць зваў.

У гэтыя хвіліны я глянуў на сялян, якія зайшлі са мною ў хату. Іх вочы, вочы, якія бачылі сьмерць бліжэй, чым чые-небудзь, былі поўныя сьлёз, мучыцельных балючых сьлёз, сьлёз за маленькіх забытых сірат.

З пахіленымі галовамі мы вышлі з хаткі сірат Васілеўскіх...

Адзін з сялян ціхімі словамі, нібы гэта быў які-небудзь жудасны сакрэт, сказаў:

— Бацьку гэтых сірат страшэнна каталі. Сам паручнік прысутнічаў пры яго катаваньні і «жолнежы» перад ім стараліся ва ўсю...

Ня гледзячы на сьлёзы, мне ўсё-ж было радасна пры думках аб тым, што сяляне вёскі Всава ня схіліліся перад панам і ні разу не сказалі—«цалую панскія боты».

## VIII

Цэлы дзень я хадзіў па вёсцы з хаты ў хату і гутарыў з сіратамі...

У кожнага свае жаданьні, свая боль, свае радасьці, свае пачуцьці. Цяжка перадаць усе гэтыя гутаркі, якія ў нас былі з гэтымі хлапчукамі...

Думкі і пачуцьці гэтых хлапчукоў білі, як крыніца з-пад зямлі, са ўсімі шматколернымі пераліваемі іх настрояў.

Чорнабровы 9-цёхгадовы хлапчук Уладзік Богдан хоча вучыцца і марыць аб школцы. Ніна Хадасевіч, дзяўчынка 7-8 гадоў, не дачакалася, пакуль яе пусьцяць у школку, і сама па сабе вывучылася грамаце. І каб давесьці мне аб гэтым, яна, крыху саромячыся, але з патаемнаю гордасьцю, тут-жа пачынае чытаць беларускія вершы.

Я не хачу згушчаць фарбы, я зусім праўдзіва хачу апісаць свае ўражаньні ад невялічкіх гутарак з дзяцьмі, мне рабілася радасьней, і я хвілінамі забываў аб цяжкім стано-

вішчы дзяцей. Але амаль што ў кожнай хатцы факты ціхім жахам крычалі аб тым, што мы не дагледзелі сірат.

Я адчуў гэта асабліва выразна тады, калі паглядзеў на Ганульку Хадасевіч,—дзяўчынку 7 гадоў, у якой вырас вялікі горб пасьля таго, як яна звалілася з печы, выключна па недагляду.

Лепей усяго даглядае за сіратамі-ўнучатамі старая бабулька, маці забітага і спаленага селяніна Ніцкага.

У гэтай хатцы я бачыў самыя ласкавыя адносіны да дзяцей, якія паблісквалі вачыма ў той час, як мы гутарылі з бабулькаю. У часе нашай самай задушэўнай гутаркі бабулька вачыма, у якіх сьвяцілася трывога, запыталася:

— А што, можа паны зноў вайною ідуць? Бо калі што. дык сама выпраўлю апошняга сына...

Усе, як адзін, будзем змагацца за тое, каб не катавалі зноў.

## IX

Я ведаю дзьве Беларусі—Беларусь паўстаньня і Беларусь лучын і журбы...

Аб Беларусі паўстаньня цяпер буду пісаць я... Аб тэй Беларусі, ад якой вее найцудоўнай романтыкай, аб Беларусі, якая захавала жах мінулага ў маўчаньні сваіх вачэй. Я веру ў словы сялян вёскі Вастравы, што на Бабруйшчыне, у словы жывых удзельнікаў гэроічнага паўстаньня нашых вёсак. Селянін Васіль Хадалей, найбольш упарты паўстанец гэтай далёкай вёскі, паблісваючы вачыма, з запалам апавядаў мне аб гэтай барацьбе. Васіль Хадалей па гадох яшчэ зусім не стары селянін, але рэзкія складкі, якія ляглі каля губ, і глыбокія маршчыны на лбу кажуць аб тым, што гэтаму селяніну давялося шмат перажыць. Ня скупячыся на словы, пакрысе пачаў ён сваю аповесьць, сарамліва гледзячы на чалавек 20 сялян, якія сабраліся ў яго хатцы, якія таксама былі ўдзельнікамі і саратнікамі гэтай барацьбы...

— Было ў 1918 годзе, вясною,—пачаў простымі словамі аповесьць свайго жыцьця селянін Васіль Хадалей...—У нас у вёсцы 60 чалавек чырвонагвардзейцаў было, ды 120 чалавек сялянскай абароны. 22-га лютага а 1-й гадзіне ўначы

раздаліся трывожныя стрэлы. Застракаталі нашыя кулямёты. Я і Парахневіч Андрэй, ды 4 чырвонагвардзейцы пайшлі ў разьведку. Толькі мы зьбеглі з горкі, што каля ракі, бачым—раскінулася нейкая цэп. Цэп была настолькі блізка ад нас, што Парахневіч запытаўся:

— Што за цэп?

У адказ раздалася страляніна. Прыбеглі мы да сваіх, а нашая адзіная гарматка, што; усё роўна хворая бабулька, «кашляла», ужо зьнялася ды ўшла. Пакуль гармата была, паны нас яшчэ крыху баяліся, а як толькі яна перастала біць, пачалі наступаць бязупынна. Сьвятала. Я быў каля кулямёта, ленты падаваў. Ваду падносіў. Кулямётчык быў украінец, упарты хлапец.

— Будзем, пытаюся, трымацца?

— Будзем, кажа.—Ну, мы і трымаемся... А па сьнягу бачым цэп за цэп'ю. Ідзе ды ідзе...

— Зьбегай, кажа мне кулямётчык, за гранатамі.

Прыношу я гранаты, гляджу, а кулямёт увесь заліты крывёю, а на ім кулямётчык. Трымаю я гранату ў руцэ, гляджу на мёртвага кулямётчыка, дый ня ведаю, што рабіць. Тымчасам страляніна амаль што зусім спынілася. Дзе-ні-дзе толькі гучэлі адзіночныя стрэлы. Я агледзіўся. Раптам бачу—стаяць нейкія людзі і махаюць мне капялюшом. Я падбег да іх,—думаў, свае... І толькі калі падбег зусім блізка, я зразумеў сваю памылку. Недалёка ад мяне стаялі паны і, відаць, усьміхаліся, бачачы, як я зьбялеў, як зьбянтэжаны.

Мяне хапіла нейкая дзікая злоба. Я са ўсёй сілаю кінуў гранату...

X

У часе, як у нас ішла гэтая ціхая гутарка, у хаце Васіля Хадалея ўсё болей зьбіралася сялян.

Падыходзілі маладыя хлапцы, падыходзілі і зусім сівыя дзяды. Мяне асабліва зацікавіў адз'н зусім сівенькі дзядок, прозьвішча яго Цэйкавец Андрэй... Быў ён, у папасе, у кажушку, падпяразаным саматканым паясом, і ўвесь час смактаў вялікую люльку.

Сівая чупрына яго падала на лоб, а вусны яго ўвесь час радасна ўсьміхаліся. Ва ўсёй яго фігуры адчувалася вялікая, сугліністая сіла.

— Хто гэта?—запытаўся я ў свайго суседа-селяніна.

— Гэта адзін з самых актыўных партызанаў нашай вёскі. Увесь час ён быў з моладзьдзю: і ў лесе, і ў цапі... А цяпер, як паноў перамаглі, дык ён у нас у пашане.

І сапраўды, было па дзядзьку відаць, што ён запаліўся ад гэтых успамінаў, што яму радасна радасьцю пераможца. Гэты дзядок быў шчырым і праўдзівым усё жыцьцё. Цікавы выпадак апавядаюць пра яго сяляне.

Аднойчы, калі старык Цэйкавец выяжджаў працаваць, да яго падбеглі польскія ўланы і патрабавалі, каб ён даў свайго каня для перавозкі абозу польскай арміі.

— Як я цябе павязу, калі мне трэба біцца з табою!— адказаў старык.

«Жолнежы» прынялі гэты адказ дзядка на жарт, і толькі таму яго не забілі.

Між тым у часе, як я заглядаўся на Цэйкаўца, Васіль Хадалей апавядаў:

...— Я прыбег быў у хату Раманенкі Апанаса. Ён там ужо сядзеў,—схаваўся таксама, як і Андрэй Парахневіч. Пасядзелі мы гэтак хвілін 15. Не сядзіцца. Хочацца паглядзець, што ў вёсцы робіцца.

Толькі вышлі мы з Парахневічам, бачым—палякі. Мы назад. Яны восем штыкоў наставілі на нас.

— Выхадзі.

Мы вышлі. Загадалі нам падняць уверх рукі. Паднялі. Падбег польскі афіцэр.

— Вы хто такія?

— Я тутэйшы чалавек. Жыхар гэтай вёскі, ваша благародзьдзе,—адказаў я.

Можа-б гэта і добра кончылася, каб не адказ Парахневіча, які памыліўся і, замест «вашага благародзьдзя», назваў афіцэра «таварышом». Парахневіча тут-жа пачалі катаваць, а мяне афіцэр загадаў адвесьці да мястэчка.

Разумею я, што гэта значыць, ня сёньня, дык заўтра, але-ж напэўне расстраляюць. А тут сонца сьвеціць, вясна пачалася, працаваць трэба.

Вядзе мяне адзін «жолнеж», аглянуўся,—штык сьвеціць. Палякі навокал... І раптам бачу—едзе нейкі кавалярысты па полі.

— Хто гэта, паночак? Ці можа наш, ці з вашых будзе?—запытаўся я ў «паночка».

Уставіўся ён увесь вачыма на кавалярыстага, а я за вінтоўку ды адабраў.

Адабраў вінтоўку, а сам ня ведаю, што далей рабіць. Нарэшце папрасіў я пана:

— Выну,—кажу я,—з вінтоўкі кулі, ды аддам табе вінтоўку, калі ты адпусьціш мяне.

Дурны быў паляк, я яму падобраму і з розумам кажу, а ён мне «пся крэў» крычыць.

Так да нічога не дагаварыліся, а тут яшчэ ён мяне палохаць расстрэлам пачаў. Я і сам бачу, што сьмерць прышла, што навокал палякі. Крычаў, крычаў падпанак на мяне, аж пакуль не забіў я яго. А сам кустамі ды ўцякаць...

Бачылі гэта сяляне, бачылі і палякі, амаль што на іхных вачох здарылася ўсё гэта...

Бягу я сярод лазы, а легіянэры за мной нясуцца. Страляць пачалі. Крычаць, каб супыніўся. Бягуць... Але я, вядома, хутчэй бег...

## XI

Я бег. Гэта было нейкае мёртвае кола маіх ног. Я ўцякаў, як уцякаюць зайцы ад соцень гончых. Я прыбег у вёску Лiскі, адтуль у Рэпкі, з Рэпак на Яськіні ды ізноў да хаты. Ужо «ганчакі» і сьлед мой згубілі, але я яшчэ бег.

Калі я прыбег у сваю вёску, праходзіў апошні польскі абоз. І раптам бачу—уздоўж вуліцы ляцяць чатыры кавалярыстыя.

Я толькі на адну хвіліну аглянуўся назад, але гэта было зроблена так хутка, што нават сам я не заўважыў свайго руху.

Я бачыў: уцякаць ад кавалярыстых, значыць загінуць напэўна. Тады я спакойна, паскробываючы патыліцу, пайшоў ім насустрэч.

Цяжкія хвіліны... Пад'ехалі. Супынілі коняй. Кажуць:

— Пся крэў, стшэляў па нас!

— Я ўжо настраляўся ў мікалаеўскую вайну,—было маім адказам.—А цяпер у яме сядзеў...

Падпанкі вылаяліся ды паехалі.

... І ў хаце, у якой вяліся гэтыя ўспаміны, на хвіліну сьціхае гутарка.

Кожны прадумвае пражытае, сваё. Так вёска Вастравы паваявала.

З панкамі яна гутарыла пераважна кулямі. Гэтыя «босыя на вогнішчы» сапраўды давялі аб гэроізьме беларускіх сялян. І гэроізму было шмат, а яшчэ болей засталося сарамлівасьці.

Аба ўсім мне сказаў Васіль Хадалей, нічога не ўтаіў, без хвальбы, без шляхецкіх жэстаў. Утаіў Васіль Хадалей толькі аб тых хвілінах, калі ён быў нявыказна спакойным, нязбыўна сьмелым гэроем сялянскага паўстаньня. Я даведаўся аб гэтым, дзядзька Васіль Хадалей!

І гэта ня трэба сарамліва ўтойваць.

Дзядзька Васіль! Наша моладзь будзе вучыцца так-жа ўпарта і гэроічна змагацца, як гэта ўмеў рабіць у свой час селянін вёскі Вастравы.

І ўсё тое, што мне расказалі сяляне пра Васіля Хадалея, я зараз раскажу.

Было ў адзін з вясновых дзён.

Іначай Васіль Хадалей ня мог зрабіць! Наехалі тры падпанкі на мястэчка. Пачалі рабаваць яўрэяў. Аднаго яўрэя мучылі пакрысе, мучылі так, як гэта ўмела рабіць толькі шляхецкае войска.

З 11 ран, зробленых на целе яўрэя, цякла кроў. А ў двух вярстах ад мястэчка была вёска Вастравы. Даведаўся аб катаваньнях у мястэчку селянін Васіль Хадалей. Схапіў стрэльбу і пабег на дапамогу. Пабачылі сялянскія хлапцы, што Хадалей пабег ратаваць мястэчка, схапілі і яны стрэльбы ды пабеглі на падмогу Хадалею. Але ўжо і ня трэба было.

Стрэльба Васіля Хадалея навучылася пападаць. І калі прыбеглі сялянскія хлапцы, дык яны толькі і пабачылі што забітага Хадалеем падпанка і яшчэ пабачылі двух другіх шляхецкіх кавалярыстых, але яны ўжо былі далёка.

Гэтыя шляхецкія «рыцары» лепей усяго ваявалі з абязброенымі.

Аб гэтым сваім добрым, гэроічным учынку Васіль Хадалей забыўся сказаць.

Дзядзька Хадалей, Беларусь яго не забудзе!

## XII

Дзе-ж тая цудоўная вада гаючая, дзе-ж тая вада жывучая, што-б загаіла, што-б зарасьціла крывавыя раны нашай Беларусі...

Крыжамі ўставілі паны беларускія вёскі... Дзевяць крыжоў засталося за некалькі дзён шляхецкага панаваньня і ў вёсцы Вастравы. Сярод гэтых крыжоў, пад якімі пахаваны паўстанцы, ёсьць адзін крыж, які ўвесь час будзе гострым болем напамінаць сялянам аб шляхецкай навале. Пад гэтым пахілым крыжом пахавана 16-цёхгадовая дзяўчынка, забітая панкамі «так сабе», для забавы...

Крывавая забава...

9 крыжоў! Некалькі вёсен назад вывелі панкі па-за вёску дзесяць сялян вёскі Вастравы.

— Закрывайце вочы шапкамі!

Адмовіліся сяляне. Крайні, які стаяў каля плоту, селянін Парахневіч Андрэй, брат забітай 16-цёхгадовай дзяўчыны, потым апавядаў аб гэтых хвілінах...

— Навокал было шмат палякаў,—казаў ён,—а расстрэльвалі нас тры жаўнежы. Стаю я,—гляджу, у каго цэляцца. Страляюць раней у крайніх з другога боку.

Гэта разумная пытка,—прымусіць глядзець на сьмерць сваіх таварышоў і чакаць сваёй чаргі. Раздаўся залп. Трое ўпала. Я не дачакаўся сваёй чаргі, але, пераскочыўшы праз плот, кінуўся ўцякаць. Адна з куль прабіла мне нагу, але я ўсё роўна бег... Я схаваўся ў гумне аднаго з сялян... Схаваўся пад скрыню, у якой звычайна ляжала сена для коняй. «Жолнежы» не знайшлі.

На другі дзень сяляне, якія бачылі і ведалі, куды я схаваўся, прыслалі да мяне брата.

Прыходзіць брат. Пытаецца:

— Ты жыў?

Пазнаў я яго голас.

— Жыў,—адказваю...

— Ну, дык вылазь.

Я і ведаю, што брат гэта, і разам з тым неяк ня веру. Жыццю свайму ня веру. Сабе ня веру. Ледзьве ўтаварыў ён мяне вылезьці. Потым ужо сяляне мяне захавалі. Нагу вылечылі...

... Так некалі апавядаў аб тым, як ён стаяў пад расстрэлам, селянін Андрэй Парахневіч. Некалі, бо праз некаторы час ён памёр. Ня вытрымалі ўсяго перажытага ні нэрвы, ні сэрца...

Між тым, дзевяць чалавек сялян,—па чарзе па трох,—расстрэльвалі. Селяніна Шынкевіча першым стрэлам толькі паранілі, навакол яго ляжалі перастраляныя, а ён сярод іх акрываўлены стаяў, сьцякаючы крывёй. Падышоў да яго жоўнеж і ва ўпор у галаву стрэліў. Як хавалі, зьвязвалі кавалкі мяса...

Пётру Шмата «расстрэльвалі» паасобна ад усіх. Яго вывелі за вёску, паставілі і ўсяго скалолі штыкамі. Разьдзелі і кінулі...

Пётру Шмата потым падабралі сяляне. Жыцьцё ледзьве-ледзьве сьвяцілася ў яго вачох. Выратавалі... Адхадзілі...

Я цяпер, як быў у вёсцы Вастравы, хацеў пагутарыць з ім. Ды сяляне кажуць—ня варта. Зрабілася нешта з чалавекам пасьля «таго», ходзіць ды пяе...

Дзе-ж ты, цудоўная вада гаючая, дзе-ж ты, вада жывучая, што-б загаіла, што-б зарасьціла крывавыя раны нашае Беларусі.

## XIII

Там, дзе разьліты лужы крыві,—не зарастуць яны ніколі быльлём...

Жудасная праўда з вуснаў у вусны будзе перадавацца ад дзеда ўнукам, ад бацькі сыну.

Няхай памятуюць, што ні каменны слуп, ні царственая труна не дажыве да тых часоў, пакуль будуць жыць на Беларусі гэтыя крывавыя ўспаміны.

Іскры ў нашых вачох, боль сэрца нашага, кіпучыя сьлёзы ў грудзёх сьведчаць аб гэтым. Строгімі словамі мы раскажам сусьвету пра свае глыбокія раны, мы пакажам тую турму, якая засталася ў сэрцы селяніна пасьля панскай навалы.

Глыбокі твае раны, Беларусь!..

Розум польскага пана заўсёды гараваў скудавум'ем. Вось чаму, калі кроў беларуса апынулася перад вачыма разьюшанага барана з белым арлом у галаве, ён пачаў параненую краіну лячыць катаваньнямі. І цяпер жудасная праўда ўспамінамі ходзіць па Беларусі. Яе можна прачытаць і ў вачох сялян і ў пыльных архіўных паперах:

...Василий Подберезный, сын Ивана и Парасковьи, родившийся 15 января 1901 г. в Глуске, Бобруйского уезда, холост, православный, проживавший в г. Бобруйске, за то, что последние месяцы принадлежал в г. Бобруйске к тайному коммунистическому комитету, поставившему своей целью произвести вооруженное восстание среди населения Бобруйского уезда, а также за распространение среди того же населения прокламаций, коммунистической литературы, враждебного настроения по отношению к польскому государству, чем учинил тяжкое преступление военной измены, предусмотренной ст. 3 устава о судах военного времени от дня 5 февраля 1919 г.—приговорен к смертной казни через расстреляние.

Приговор приведен в исполнение в 4 часа утра дня 7-го мая 1920 г. в г. Бобруйске.

Бобруйск, мая 7 дня 1920 г.

**Брозголевич**

Капитан и Комендант этапной станции.

Жудасная праўда ўспамінамі ходзіць па Беларусі. Вёска Падарэсы, што на Бабруйшчыне, апавядае аб тым, як падпанкі цесаком адрэзалі галаву селяніну Раманчуку, як Дзям'яна

Кітлінга кінулі ў полымя, як сялянку Акуліну Малочка забілі, вёска Драніна апавядае аб катаваньнях над 32 сялянамі і аб іх жудаснай сьмерці...

Досыць! Беларусь для мяне занадта дарагая для таго, каб бяз гневу пісаць аб гэтых катаваньнях.

І цяпер я малюся аб адным, каб хутчэй загінула тая чорная сіла, якая маршчынамі ўкрыла твар Беларусі і зьняла краску з яе шчок, ды яшчэ аб тым, каб Беларусь ні на хвіліну, ніколі ня схіліла сваіх вольных штандараў перад ганебнаю белаю сілаю!

---

Антось Замежны

# У дэфэнзыве

Палачы, окупанты, фашысты,
Здраду хочаце вырваць з жыцьцём...
Мае раны пад вашым біцьцём
Загамоняць больш цьвёрда, вагніста,
Што ня выдам братоў палачом.
Выдумляюць горшы зьдзек, катаваньне,—
Не патрэбны турботы для вас.
Што мне боль, калі ў гэты я час
Палыхаю жаданьнем паўстаньня
Шматмільённых прыгнечаных мас!
Хоць вы сэрца на часткі парвіце,—
Ў кожнай частцы жыць буду, каб мсьціць!
Помсты нашай нічым не згасіць!
Блізкі час, калі мы бліскавіцай
Тут запалім часы навальніц.

**Алесь Звонак**

# З а х а д у

Ня першы раз
прыносіць весткі тэлеграф...
Ня першы раз...
Ня першы й не апошні.
І ў кожнай стогны з-за астрожных крат
ахвяраў новых,
цэлы шэраг ў кожнай.

З іх не адна
трывожна ў сэрцы адгукнецца...
і не адна
у сэрцы помстай забурліць:
што недзе там
кроў братняя ільлецца
ў закованай аковамі зямлі;

што недзе там—
на гулкіх вуліцах Варшавы—
ў астрожных сьценах,
ой, загінуў не адзін;
што правіць
зьверскую, крывавую расправу
астрог, бізун, жандарскі карабін.

І многа іх
дарогай слаўнаю пайшлі насустрач сьмерці...
Багінскі... Вечаркевіч...
Энгель... Глушка...
Відаць,
няволі ня стрымалі буйны сэрцы.
Відаць,
паном не закаваць ў аковы душы.

Вось сёньня зноў—
хаўтурным маршам словы
ў вушшу трывожнай весткаю зьвіняць:
— «Расстрэлен
Ботвін-комуніст у Львове,
такога-та чысла, гадзіны, дня»...

Няхай!.. Няхай
загінуць сотні сёньня!
Але паўстаньня хваль
крывёю ня спыніць!..
На зьмену ім
прыдуць другіх мільёны,
каб вольнымі сустрэць другія дні!

На зьмену ім
прыдуць другіх мільёны—
на грозны шлях
паўстаньня й барацьбы.
І хваціць
пораху, вінтовак і патронаў,
каб вольным,
хто ў няволі, быць.

З. Бядуля

# Powiedz, gdzie jest twój syn?[1])

*(З жыцьця сялян Заходняй Беларусі)*

— Powiedź, gdzie jest twój syn?

Ужо другі дзень гэтыя словы зьвіняць у вушох старога Барташука на розныя лады. Гэтае запытаньне перакруціла, перавярнула ўсё яго жыцьцё, скрамсала на шматы тую магчымую лагоднасьць і той дабрабыт, якія так-сяк існавалі ў яго хаце, у яго вёсцы пад уладай польскай шляхты.

Маленечкі сухенькі дзядок Барташук прывык шмат да чаго, прывык асьцерагацца лішняе слова казаць, бо шляхта мела шмат вушоў: польскі настаўнік, ксёндз, поп, паліцыянт, асаднік і іншыя шпікі лавілі кожнае слова яго «бунтарскай» сям'і.

— Powiedz, gdzie jest twój syn?

Сын Барташука, восемнаццацігадовы Язэп, зьнік пасьля таго, як знашлі каля іхняй вёскі на полі між дзьвюх крушняў забітага польскага жандара. Жандара Янэка ведала ўся ваколіца, як дзікага ката, які ўжо не аднаго бязьвіннага селяніна адправіў на той сьвет, які зьдзекваўся над старым і малым бяз дай прычыны, а проста меў ад гэтага вялікую прыемнасьць. Біў так сабе, абы біць: «а ну-ж што скажа?»

— Powiedz, gdzie jest twój syn?

За апошнія два дні стары Барташук чуў гэтае запытаньне шмат разоў—мо' сто, мо' дзьвесьце, можа яшчэ болей. Як увалілася трое п'яных жандараў у яго хату, як пачалі бізунамі катаваць яго, старую жонку, маладую дачку, дык у вялізнай лужыне брудных польскіх лаянак хрыпелі, сьлінявілі гэтыя словы. Тры разгарачаныя рылы польскіх жандараў—кожны пасвойму біў—ці шомпалам, ці ботамі, ці бізуном, кожны

[1]) Кажы, дзе твой сын?

на сваю манеру выплёўваў, выхраківаў гэтыя словы. Жылы на ілбу вяроўкамі пляліся, вочы п'яныя сыпалі іскры, дрыжэлі падбародкі ад дзікіх крыкаў:

— Powiedz. gdzie jest twój syn?

Пад плач і лямант хатніх зьвязалі вяроўкамі старога Барташука і яго дачку. Так моцна зьвязалі, ажно косьці рыпелі і хрусьцелі. Павялі іх у паліцэйскі пастарунак.

Надзвычайна лагодны летні дзень сеяў сонечныя, яскравыя зярняты на поле і лес. Над пясчанай дарогай віселі пляцёнкані жаўранкі. На полі дзе-ні-дзе мітусіліся людзі.

Сьлёзы ў вачох Барташука і яго дачкі высахлі, застыглі ў сухім бляску. Рукі былі закручаны за плячыма і перавязаны аднэй вяроўкай. Ісьці было нязручна; бяз вольнага размахваньня рукамі, здавалася, што нясеш на нагах нейчае чужое цела. Ногі без разбору ступалі ў пяску або часам па вострых каменьчыках. Усё вакол парабілася чужым, далёкім.

І ў старога Барташука і ў яго дачкі думкі былі накіраваны ў адзін бок, каб хаця малады і гарачы Язэп ня выскачыў цяпер з лесу іх бараніць. Тады яго жандары на месцы прыстрэляць. Яны ўжо як-кольвечы перацерпяць...

Жандары час-ад-часу штурхалі іх прыкладамі, білі жылістымі кулакамі па твары, ад чаго ў старога Барташука твар набух, як гнілы грыб, пасінеў, заплылі вочы.

— Powiedz, gdzie jest twój syn?

Стары Барташук пляваў крывёю, глытаў салёную жыжу, і незнаёмы цяжкі пах казытаў напухшыя ноздры. На ўсе дзікія катаваньні ў пастарунку ён маўчаў, сьцяўшы зубы.

Яго дачку павялі ў другі пакой, дзе рагаталі п'яныя паліцыянты. Іхні рогат то разьліваўся мэталёвымі трэлямі, то сыпаўся дробным шротам, то грыматаў разьюшаным конскім іржаньнем.

Барташук паў духам. Ён непакоіўся за дачку.

У гэты час ён меў адпачынак ад катаваньня. Ён падышоў да дзьвярэй і пачаў стукаць у іх пакалечанымі рукамі, крычаць нямым голасам:

— Людзі, ратуйце!

Крык з грудзей старога вырываўся чужы, незнаёмы. Ад свайго ўласнага крыку старому рабілася лягчэй, сьмяртэль-

ная роспач як-бы супакойвалася. Супакойваючыся, ён пачаў адчуваць боль ва ўсім целе ад катаваньня. Нібы цяпер заўважыў самога сябе. Як білі, гаварылі, што гэта толькі «цьвяткі», а «ягадкі» яшчэ будуць. Гэтыя «цьвяткі» давалі сябе адчуваць, ныла ўсё цела.

— Людзі, ратуйце!—крычаў стары.

Нехта за дзьвярмі скрыпнуў ключом. Дзьверы ірвануліся, і стары Барташук упаў галавой якраз на грудзі бліскучага, выфранчанага жандара. Жандар адскочыў назад, зьбянтэжаны ад неспадзеўкі—і Барташук, як труп, ударыўся тварам аб яго выглянцаваныя боты.

Падскочылі яшчэ двое. Барташука за ногі завалаклі назад у пакой. І пасьля ранейшых «цьвяткоў» пачаліся «ягадкі».

— Powiedz, gdzie jest twój syn?—запытаўся адзін з іх лагодным, надзіва ціхім голасам.

Барташук маўчаў і глядзеў на іх так незацікаўлена, нібы яны былі празрыстыя, нібы ён бачыў праз іх нейкую даль.

— Адумайся, псякосьць, а то жывым адгэтуль ня выйдзеш!—казаў жандар болей строгім голасам.

Барташук стаяў, як глуха-нямы.

— Мы яго пацягнем за язык!—казаў другі жандар сіпучым зьмяіным голасам. З-пад абшлагаў сваёй курткі выняў пару бліскучых шпілек... Як спакойны хірург, падышоў да Барташука, каб «пацягнуць яго за язык».

Дзікі, жудасны крык запоўніў камору, ірваўся праз вокны на двор. Барташук трапятаўся ўсім целам. Двое жандараў трымалі старога за абедзьве рукі, а трэці запускаў яму шпількі пад пазуры. З-пад чорных закарузлых мужыцкіх ногцяў расьціснутымі журавінамі капала кроў на яго пакрыўленыя мазалістыя пальцы.

— Powiedz, gdzie jest twój syn?

Апрача бясслоўнага крыку болі, нічога ад старога не дабіліся. Барташука цягалі за нос, за губы, білі галавой аб сьцяну. Кінулі, як мяшок, на падлогу і бліскучымі ботамі гапталі: па твары, па бакох, станавіліся ботамі на горле.

Стары стагнаў з кожным разам усё спакайней... Нібы прызвычаіўся...

Барташук забыўся, дзе ён і што з ім. Болю ўжо не адчуваў. Было такое ўражаньне, нібы гарачы дождж падае—льлецца на яго, лезе ў вочы, у рот, коціцца градам па нагах, па жываце. Вочы былі затуманены. У гэтым тумане мітусіўся яго сын Язэп, адзін, і, здаецца, не адзін, а дваццаць Язэпаў з усіх куткоў глядзелі на яго і шапталі жаласьлівым голасам:

— Тата... татачка...

Голас быў такі жаласьлівы, што самому Барташуку чагосьці жаласна стала. Ён пачаў шкадаваць самога сябе, што ня можа выбрацца з-пад такога дажджу. З вачэй падаліі сыпаліся старчыя сьлёзы.

«Тата... татачка»—кажа сын Язэп.

— Powiedz, gdzie jest twój syn?—чуе ён галасы над сабой як-бы з невядомай далячыні, аднекуль здалёку.

Постаць сына зьнікла.

Перад вачыма растуць зялёныя кругі, вырастаюць у вялізныя абручы, у скручаных баранкамі вужакаў. Коцяцца ціха па падлозе.

Вялікая роспач ахапляе Барташука.

Прапаў сын.

Якія тут добрыя людзі—занепакоіліся аб яго сыне... Яму пачынае здавацца, што сам ён, бацька, забіў яго—забіў сына роднага. Жудасьць напала на Барташука. Вочы вылезьлі на лоб. У галаве горача стала...

Барташука аблілі халоднай вадой, поўнае вядро вылілі на яго. Ён ляжаў распластаны на падлозе ў лужыне крыві і вады, дрыжучы ўсім целам.

Над ім стаялі ўспацеўшыя, разгарачаныя жандары і шапталіся паміж сабою:

— Жывуч, падла!

Як санітары, жандары паднялі Барташука з падлогі, паставілі на ногі і рупліва пачалі зрываць з яго вопраткі.

Стары тарашчыў у сьцяну крывёй аблітыя вочы і апухшымі губамі мармытаў:

— Браточкі... браточкі...

Ён гаварыў гэта не да жандараў, бо на іх не глядзеў, а як-бы да людзей усяго сьвету гаварыў.

— Ціха, хамская костка!—крыкнуў старшы жандар,— будзем біць вас, пакуль усе зробіцеся бандытамі!

Барташук стаяў голы, у сіняках на ўсім худым целе, дрыжаў і шаптаў:

— Браточкі... браточкі...

— Лажыся!—закамандаваў старшы жандар,—тут твая сьмерць будзе, калі ня хочаш казаць, дзе твой сын!

Барташук пакорліва лёг.

Яму на плечы палажылі дошку. Ён выпрастаўся, каб дошка лепш ляжала. Пачалі біць гірамі па дошцы. Нібы рамантавалі падлогу. Барабанілі ў такт:

— Раз! два! тры!

Глухі стук раздаваўся ў пакоі. Пад дошкаю корчылася акрываўленае распластанае цела. Пакрыўленыя, напухшыя ад уколаў сталёвых шпілек мужыцкія пальцы хутка скакалі па бруднай падлозе, нібы перабіралі нявідочныя клявішы музычнага інструманту.

Спачатку Барташуку здавалася, што бачыць сваю хату. Вось яе вецер-віхор разбурыў, панёс старую саломку на поле, разваліліся сьцены, і яго старая жонка сядзіць на печы, глядзіць на яго і рукі ломіць. А вось конік ліжа яго за руку гарачым і мокрым языком; ліжа і пaглядае разумнымі вачыма ў самыя вочы старому.

Пасьля Барташуку здавалася, што яго кінулі ў цёмную глыбокую процьму. Ён ляціць уніз, ляціць і ляціць—мо' год, мо' сто гадоў. Ад гэтага шпаркага лёту дух захоплівае. Замест сэрца—нейкае пустое месца. Так прыкра... Хацеў-бы скарэй грукнуцца аб дно, каб косьці ў пыл рассыпаліся, каб болей нічога не адчуваць...

Яго ў другі раз аблілі вадою. Як ачнуўся, стаяла глухая поўнач. Праз жалезныя краты лез у цемру смуроднага пакою ціхі бледна-жоўты месяц.

На сьцяне люстрыўся адбітак жалезных крат—цёмныя клетачкі на дрыжучым белым абрусе месячнага зьзяньня.

Дзесьці забрахалі сабакі: адзін голас грубы, з лёгкімі дрыготамі медзі, другі—цененькі, з хрыпоткай. Стары Барташук пазнаў брэх свайго Лыскі. Задрыжэла сэрца селяніна. Гарачы ком падступіў к горлу, шчэміць, душыць...

— Што цяпер у хаце робіцца? Дзе сын? Ці пусьцілі каня на начлег? І так мала сена будзе на зіму для скаціны...

Непакоіцца. У гаспадарчых клопатах забыўся, што ня можа варухнуцца з месца, што ўсе рэбры паломаны, што ўвесь ён у крыві... Усё заслонена перад ім—Лыска кажа яму пра хату...

Стары лавіў кожны шолах вакол. За сьцяною на гародзе шастала старая бяроза (удзень яе заўважыў), нібы зладзейка кралася да яго. За дзьвярыма чуваць былі ціхія галасы са сьмешкамі, гульлівыя галасы жандараў...

Раптам...

Нехта ў поцемках уткнуў доўгае, вострае шыла ў самае, самае сэрца Барташуку. Вушы навастрыліся. Па ўсім пакалечаным, скатаваным целе праскочылі палючыя аганькі.

Працяглы, жудасны лямант з суседняга пакою праскочыў праз сьцены, узбудзіў Барташука і вохканьнем завандраваў у месячныя кроплі летняй ночы.

Гэта войкала дачка Барташука.

«Яе цяпер гвалцяць...»—пранеслася маланкай у мазгох старога.

Лямант раптам сьціх.

«Ёй заткнулі рот анучай...»—здагадаўся бацька.

«Анучай з яе парваных вопратак»...—мільганула далей думка, бо ён чуў шорах, нібы тканіна рвалася.

Можа здалося яму—ён чуў сапеньне-хрыпеньне жандара...

Стары хацеў рвануцца з месца—ня мог, вельмі аслабеў. Хацеў крыкнуць голасна, каб увесь сьвет пачуў—хрыпоты і бульканьне рваліся з яго акрываўленых губ.

«Далей не магу цярпець, скажу, дзе сын», падумаў стары. «Не, не скажу!» і самому сабе зрабіўся ён агідным за такія думкі. «Сын павінен адамсьціць за бацьку, за сястру, за вёску...»

Барташук ляжаў у забыцьці. Лёгка было на душы. Прыемная цяплынь ахапіла ўсё цела. Толькі нейкія надакучлівыя мухі лезьлі ў ноздры, у рот, у вочы, казыталі праз меру. Мо' яму гэта здавалася?

Сьмешныя песьні сьпяваў Барташук. Усе на адзін лад. Адны і тыя самыя словы:

— Powiedz, gdzie jest twój syn?—Можа гэта здавалася Барташуку?

Праз жалезныя краты ўглядаецца месяц. Цень кратаў кладзецца, нібы пляцёнка з лучын, на застыўшы скорчаны труп старога селяніна.

На дварэ зацягвае выцьцё цененькімі жаласьлівымі ноткамі калматы Лыска. У яго вачох адбіваецца колер жоўтага месяца.

---

**Янка Бобрык**

# Ганууля

*(З нізкі «Заходняя Беларусь»)*

I

Толькі я прымружу вочы, і перада мной—
дарога... шлях і вузкая сьцяжынка,
і на сьцяжынках: сьлёзы, зьдзек паноў...
А ў полі, цемені стаіць дзяўчынка.
Стаіць яна, прасьцёршы рукі ў даль,
з мальбой: за што, за што забралі бацьку...
А брат мой, брат жыцьцё даўно аддаў
вастрожным сьценам замку.

Адна, адна я засталася,
бы каласок пасьля жніва.
Ні слова цёплага, ні ласкі,
ой, бедная, мая-ж ты галава...

II

Прытуліўся дзень да ночы:
дрэвы ціха, ціханька шапочуць.
Толькі дзеўчыне Ганулі прытуліся там, дзе хочаш.

Дзе сваю я галаву,
дзе схілю сягоньня...
Мо' на зелену траву,
а мо' на загоне.
Мо' на зеленай траве,
а мо' на загоне
лягчэй будзе на душы,
бо я ня ў прыгоне.

Ноч. Шуміць сасоньнік,
беразьняк гамоніць,
і калосьсе гнецца долу на жытнёвых гонях.
А ля рэчкі звонка-струннай
лозы ўжо заснулі...
На купальле больш ня пусьціць, больш вянкоў
Ганула...

* * *

У сэрцы крыўда, на душы так горка...
Расхрыстаю асірацелай хата на сяле—
больш ня прытуліць, ня прыгорне—
ні брата любага, ні бацьку, ні мяне...

Бывайце, родныя,
бывайце, дарагія...
Я адплачу за кроў, браты!
Ў лясох сваіх лепш хай загіну
перад сьвітаньнем залатым.

**Ізраіль Плаўнік**

# Панская „ласка“

*(Аб Заходняй Беларусі)*

Дык вось яна панская «ласка»!—
Частуе турмою, крывёй!..
«Па «хлопах» бізунамі ляскаць,
«Каб зьвесьці са сьцежкі «крывой».
«Зблудзілі» зусім беларусы
(Да волі імкнуцца, сьвятла):
«А мы іх замоўкнуць прымусім!..
«Каб думка, як «сьветач», была,—
«Заглохне хай «хамская» мова—
«Пілсудзкі «сваю» ім нясе...
«Іх поле, іх зерне, дубровы
«Асаднікам здаць пакрысе!..
«Бо што беларусы?..
— То-ж «быдла»...
Зьмяіцца шыпеньне паноў...

. . . . . . . . . .

І цемра разьвесіла скрыдлы
На шыр беларускіх палёў...
Нясуцца стагнаньні і енкі:
За сына катуюць бацькоў...
Адказам на просьбы, маленьні—
Бізуны і звоны акоў.
І гвалцяцца маткі і сёстры
На дзікім, агідным піры.

. . . . . . . . . .

Але-ж і бунтар шаблю вострыць:
Пажарышчам помста гарыць!..

* * *

Гэй, панства... чаго звар'яцелі?..
Даволі вам сьмерцяў, крыві!..
Рубцы у саміх 'шчэ на целе
Ад «ласкавай» царскай рукі.
Гэй!..
Шляхта!
Паны!..
І падпанкі!..
Вы бачылі молат, касу?..
Як блісьне паўстаньня заранка—
Пакліча народ вас на суд!..
А суд гэты—
будзе крывавы:
Такіх мо' яшчэ ня было!..
Аб гэтым
Узьмежкавым травам
У страху зашэпча быльлё...
Хай тысячы
Гіне нявінных...
Мільёны за іх аддасьцё!..
Нядарам
Хавае ўспаміны
Аб бойках мінулых трысьцё...
Шалёная
Будзе расправа—
Як прыклад на цэлы сусьвет...
Дык годзі-жа,
Дэспот крывавы,
Расьсейваць атрутны свой цьвет.

---

## Песьня паўстанца*).

Б'ем мы пана чым папала,
Абы гаду тут ня жыць.
Каб сьлядоў яго ня стала,
Песьняй трэба так-жа біць.

Біць ушчэнт чужынца-пана,
Біць прыслужнікаў благіх,
А іх логава пагана
Запаліць з бакоў усіх.

То-ж пладзіліся вякамі—
Кроў блакітна, бела косьць,
Лезьлі з Польшчы павукамі,—
Ня міне іх наша злосьць!

Будзем біцца мы з панамі,
Каб адбіць ахвоту ім
Грунт араці мужыкамі,
Край наш польшчыць, зваць сваім.

Хай ня хопіць нам аружжа,
Хай ня хопіць ў песьні слоў—
Ненавісьці маем дужа,
Будзем біць, пальлецца кроў.

---

*) Аўтар вершу „Песьня паўстанца" невядомы. Гэта песьня і цяпер пяецца моладзьдзю ў Заходняй Беларусі.

Тарас Гушча

# Хвароба

*(Казка)*

Жыў-быў... жылі-былі.

Так звычайна пачынаюцца казкі. Пачатак хоць і стары, але добры, і ня варта ламаць галавы, каб выдумаць новы. Гэтак пачну і я—няхай дзяды ня гневаюцца на мяне. Ну, дык вось.

Жылі-былі на сьвеце два браты. Праўда—на што лгаць?—жывуць яны і цяпер, хоць і ня бачацца адзін з другім і жыцьцё іх рознае. Калі браты былі не падзелены, хадзілі яны разам на работу, у заработкі, або проста наймаліся да людзей, бо самі яны былі бедныя, а век сядзець дома ня любілі. Раз браты, пабраўшы косы, пайшлі на ўвесь дзень касіць. Касілі яны, касілі і патаміліся.

— Ну, што?—сказаў Усход:—давай, брат, адпачынем.

— Давай адпачынем,—згадзіўся Захад.

Адзін брат называўся Ўсход, а другі—Захад. Імёны іх трохі дзіўныя, бо так даўней людзі не называліся. Цяпер-жа называцца можна, як хочаш, а калі хто ня верыць, няхай сам паглядзіць у насьценны каляндар, выданы Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам на тысяча дзевяцьсот дваццаць сёмы год.

Узялі браты косы на плечы і пайшлі ў цянёк, бо дзень быў гарачы. Разьвязалі торбу, зьелі па куску сала з хлебам і прылеглі, каб «сала завязалася», прытрымліваючыся старой пагудкі: «Хто па ядзе не аддыша, таго бог за сьвіньню запіша». За гэтым-жа кустом сядзела Хвароба, мізэрная, згаладалая, бакі ўпалыя, рэбры тырчаць ды вочы блішчаць. Узрадавалася Хвароба, пабачыўшы, што браты моцна сьпяць, і давай яна выкрадацца, да братоў падбірацца. Гарацъ пра-

гавіта яе вочы—паласавацца чалавечынкаю хоча. Ступае з былінкі на галінку, з галінкі—на лісток і на бедных братоў—скок! Залезла ў іх цела, іх кроўю ад'ядаецца. А браты сьпяць, ня чуюць нічога. Паспалі з гадзіну, прачынаюцца.

— Ох, штось, брат, ломіць мяне!—кажа Ўсход.

— І мне ня можацца, як-бы нешта па скуры пашорхвае,—азваўся Захад.

Павохкалі, паахкалі браты, але хварэць няма калі. А Хвароба толькі пасьміхаецца, адпускае на кароткі час, ды зноў кабдзюрыкамі падрапвае.

— Працуйце, кажа, на мяне. Бо толькі за вашым гарбом і можна пажыць.

Працуюць браты і Хваробу носяць сваю. Тлусьцее Хвароба, а браты сохнуць.

— Няма, брат, здароўя! недабрыцца нам,— скардзіцца Ўсход.

— Няма, браце, ні здароўя, ні дабра,—аклікаецца Захад.

— Трэба ратунку шукаць.

— Трэба, браце, шукаць.

Цяжкае жыцьцё пачалося для братоў: трэба было насіць у сабе Хваробу і карміць яе. Пайшлі браты па знахарох, па шаптунох хадзіць. Хадзілі, хадзілі, ды нічога ня выхадзілі. Сядзіць у іх Хвароба, сокі з іх цягне, жылы ім скручвае.

— Не, брат,—кажа Ўсход:—не памагаюць знахары.

— Не памагаюць, браце,—аклікаецца Захад.

— Папрабуем хіба да сьвятых таўкануцца.

— Папрабуем, браце.

Пайшлі яны па царквох ды па касьцёлах хадзіць, падлогу лбамі біць, папоў ды ксяндзоў на дапамогу клікаць. Папы-ж і ксяндзы з тэю Хваробаю аднае пароды.

Адно казалі яны:

— Малецеся богу і цярпліва нясеце свой крыж: на тым сьвеце вам усё будзе вернута і заплачана ўстокраць.

І расьпісвалі яны той сьвет папоўска-ксяндзоўскімі фарбамі. Браты слухалі ды патыліцы чухалі. Рай-то рай, але-ж і крыж цягаць невялікае шчасьце.

Не супакоіліся браты, бо цяжка стала Хваробу насіць. І разышліся яны на некаторы час, дактароў і лекаў шукаючы.

Прайшло некалькі гадоў. У той час, калі Захад ужо страціў надзею вылечыцца ад Хваробы, да яго прышоў ліст ад Усходу. «Брат Захад!—пісаў Усход:—я саўсім здаровы і Хваробу сваю выгнаў. Знайшліся на сьвеце добрыя, сапраўдныя дактары. Яны мне, як па пісанаму, расказалі, што ў нас за Хвароба. А каб вылечыцца ад яе, трэба асьмеліцца на опэрацыю. Опэрацыя трохі балючая, але выганяе Хваробу. А самы верны струмант пры опэрацыі—доўбня і агонь. Стукнуць Хваробу па галаве і прыпаліць тое месца, дзе яна сядзела,—ніколі ня вернецца. Другой рады няма, а сама Хвароба ніколі ня выйдзе. Вельмі шкода, што не магу ўсё гэта расказаць табе з вока на вока, бо паміж намі завялася новая Хвароба—Граніца. Але калі ты адважышся на такую опэрацыю, якую зрабіў я, то гэтая Хвароба прападзе сама сабою. Жадаю табе посьпеху. Твой брат Усход».

Кр. К

# ЗЬМЕСТ




Институт литературы
ЦИК СССР
им. М. Горького

С.С.С.Р.
ИНСТИТУТ
К. Маркса и Ф. Энгельса
Ц. И. К.

